PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 13 (2185) Год XLIII | Беласток 29 сакавіка 1998 г. | Цана 1 зл.

## Як працуе Гарадская рада?

**З Якубам АСТАПЧУКОМ — старшынёю Гарадской рады ў Гайнаўцы, кіраўніком раёна Акцыянернага таварыства „Рэтэль" размаўляе Аляксей МАРОЗ.**

*— Хутка міне чатыры гады, як з'яўляецеся старшынёю Гарадской рады. Ці цяжка кіраваць Радай, у якой розныя плыні, выбарчыя камітэты, розныя погляды радных?*

— Заўсёды цяжка спачатку, так было і тут. Аднак стараўся я ліквідаваць усе канфлікты, якія паўставалі між выбарчымі камітэтамі. Імкнуўся яднаць радных вакол канкрэтных гаспадарчых спраў важных для ўсяго гайнаўскага грамадства. Старшыня рыхтуе план працы Рады на цэлы год і парадак работы сесіі, пра што інфармуе радных. Тут вельмі важнай справай з'яўляецца добрае супрацоўніцтва з Управай горада, у якой рыхтуюцца праекты пастаноў.



*— Каб Рада магла прыняць нейкую пастанову, трэба падрыхтаваць яе праект. Якая дарога ад ідэі да канкрэтнай пастановы?*

— Праекты пастаноў могуць рыхтаваць Управа горада і група радных, аднак, у час майго старшынства яшчэ не здарылася, каб нейкі праект падрыхтавала група радных. Рыхтуючы праект, Управа звяртае ўвагу на прапановы радных, жыхароў горада і заўвагі юрыстаў. Пазней праект ідзе на кансультацыі ва ўсе камісіі. Радныя могуць кансультаваць важнейшыя прапановы са сваімі выбаршчыкамі. Пасля абмеркавання ў камісіях прапануецца прыняць пастанову ў час сесіі Рады. Калі большасць радных падтрымлівае праект, ён прымаецца. За рэалізацыю пастаноў адказная Управа і яе старшыня — бурмістр горада. Рада ж штогод адабрае працу Управы і бурмістра.

*— Якія меры прымаюцца, каб кансультаваць прапановы пастаноў з жыхарамі горада або пытаць іх пра неабходныя інвестыцыі ў іх месцы жыхарства?*

— У кожным раёне горада ёсць свае Рады, якія могуць кансультаваць розныя прапановы з жыхарамі, пытаць пра патрэбныя інвестыцыі. Паколькі ў Гайнаўцы кожнага раднага выбіраюць у сваім раёне, могуць яны абмяркоўваць прапановы пастаноў са сваімі

[працяг ☞ 3]

## Беларускія дзеці ў Польшчы



*Дзеці з Магілёва (люты 1998).*

Ужо трэці год прыязджаюць на адпачынак у Польшчу дзеці з Беларусі. Гэтую акцыю прыдумаў і здзяйсняе Канвент польска-беларускага пагаднення ў Варшаве, з якім супрацоўнічае Варшаўскі аддзел БГКТ. Мэтай такіх паездак з'яўляецца падмацаванне здароўя, перш за ўсё дзецям з чарнобыльскай зоны.

Ад 1996 г. па сакавік 1998 г. у Польшчы пабывала ўжо 600 вучняў пачатковых школ з польскіх і беларускіх сем'яў з Міншчыны, Гродзеншчыны, Брэстчыны і Магілёўшчыны. Прыязджаюць яны ў групах па 50—100 асоб з некалькімі апекунамі-настаўнікамі. І Варшаўская куратория дае свайго апекуна, які сочыць за рэалізацыяй праграмы актыўнага адпачынку. Наша арганізацыя дбае, каб з беларускімі дзеткамі пабывала асоба, якая ведае беларускую мову.

Чым займаюцца нашы госці-дзеткі? Яны не толькі адпачываюць, набіраюцца сілы, але і знаёмяцца з Польшчай. Для гэтай справы быў адкрыты спецыяльны пансіён у мясцовасці Касіна-Вялікая ў Новасанчаўскім ваяводстве. Пануе там спрыяльны здароўю мікраклімат. Многа экскурсій, сустрэч з польскімі аднагодкамі, знаёмства з цікавымі месцамі і людзьмі выдатна садзейнічаюць азнаямленню з краінай.

Нястомны **Мар'ян Вальчак** — старшыня Канвента, так узяў сабе да сэрца справу дзяцей з Беларусі, што стала яна амаль галоўнай ідэяй яго жыцця.

— Гэтыя дзеці, — кажа ён, — вернуцца ў Беларусь, пасталеюць, завядуць сем'і. Але напэўна ўспомняць сваю пабыўку ў Польшчы. І падумаюць, што палякі не такія ўжо дрэнныя людзі! У мінулым у нашай гісторыі па-рознаму бывала. Я не раз ім кажу, што незалежна ад палітыкаў, нам, простым людзям, трэба будаваць добрасуседскія адносіны. Палітыкі прыходзяць і адыходзяць, а народ астаецца.

**Нашы спонсары**

Немагчыма было б арганізаваць адпачынак беларускім дзеткам без зычлівых і прыхільных нашай ідэі дзеячаў Варшаўскага самаўрада і адміністрацыйных улад горада Варшавы. Ужо трэці год успамагае нас прэзідэнт Варшавы **Марцін Свяціцкі**. Вялікім прыхільнікам нашай акцыі з'яўляецца намеснік варшаўскага куратара **Зянон Гаворчук**. Грашовую дапамогу атрымоўваем яшчэ ад Канцылярыі Сейма.

Прыхільнікам нашай справы з'яўляецца таксама намеснік старшыні рады гміны Варшава-Цэнтр **Рышард Міклінскі**.

У 1998 г. хочам таксама запрасіць пад 1000 дзяцей. Шукаем спонсараў. Спадзяемся, што знойдуцца ў Польшчы беларускія бізнесмены, якія хацелі б дапамагчы здзейсніць нашы планы. Мы, арганізатары, і дзеці з Беларусі будзем за гэта ім удзячны.

**Алена Аншэўская**
**старшыня Варшаўскага аддзела БГКТ**

Адрас Канвента:
**Konwent Współpracy Polsko-Białoruskiej, ul. Góreckiego 7, 00-950 Warszawa, tel. 8283498**

## У нумары

# Мы прачыталі

*Як мы радаваліся падзеньню камуністычнага рэжыму! Гэта азначала вызваленьне, свабоду. Зьніклі абкамы, гаркамы ды іншыя „камы". Нашым дзецям ужо не навешвалі зорачкі з выявай кучаравага Валодзі Ульянава. Зьніклі чырвоныя гальштукі-ўдаўкі, якія мы хавалі над кашулю, а настаўнікі прымушалі, каб мы не саромеліся, гэта насілі. Піянерычына ды арганізацыя пад назвай „Камсамол", ад членства ў якой нярасткі залежыла наша знаходжаньне ў вышэйшых навучальных установах, здавалася зьнікла на заўсёды. Скончылася дыктатура хамаў. Мы выпакутавалі гэтыя зьмены сваёю адданасьцю ідэям вольнасьці, і абвяшчэньня незалежнасьці Бацькаўшчыны ўспрымалася як незалежнасьць ад таталітарызму, камунізму, ціску натоўпу на асобу. Як вызваленьня ад ненатуральнай для чалавека ідэалогіі. У дзяржавы зьявіўся свой сьцяг і герб.*

*І вось, намаганьнямі ўладаў, адраджаўся камсамол, але пад новай шыльдай. Зараз гэта маладая пачвара носіць імя Беларускі патрыятычны саюз моладзі. Занісваюцца туды маладыя прыстасаванцы чые меркаваньні нічога агульнага з патрыятызмам не маюць. Улады ізноў калечаць юныя душы ў турмах за надпіс на плоце „Жыве Беларусь!" Ні ў воднай постсавецкай дзяржаве не дадумаліся здымаць дзяржаўны сьцяг і вывешваць камуністычны...*

*Наша ніва, н-р 5*

* * *

*II wojna światowa, a później represje stalinowskie przetrzebiły straszliwie polskie kadry uniwersyteckie. Powoływano więc na katedry ludzi o minimalnych, a nieraz żadnych kompetencjach, licząc, że to okres przejściowy i za chwilę zajmą ich miejsca młode, dynamiczne wilczki. Ale nic takiego się nie stało. Nominaci byli niedokształceni, ale nie naiwni. Jakiż to bowiem interes w promowaniu ludzi zdolniejszych od nas, którzy za chwilę usuną nas w cień. Zatrudniano na stanowiskach asystenckich potakujące przeciętności. Ludzie, którzy na Zachodzie robili wielkie kariery naukowe, nie mogli liczyć na asystenturę w rodzimej placówce.*

*Polityka, nr 10*

* * *

*W Białymstoku odbyło się seminarium „Demokracja — wspólna sprawa" zorganizowane przez Centrum Edukacji Obywatelskiej Polska — Białoruś... Szef Centrum jest znany najbardziej z tego, że w 1996 roku uczestniczył w publicznym spaleniu portretu prezydenta Republiki Białoruś.*

*Przegląd Prawosławny, nr 3*

Спачуваем усім „праваслаўным" з прычыны напаткаўшага іх гора — спалення вывы Аляксандра Рыгоравіча падчас пікету 1 траўня 1996 г. побач Консульства РБ у Беластоку. Мы таксама абураныя гэтым вялікім злачынствам, тым больш, што — як самі бачылі — фотаздымак Рыгоравіча зусім не хацеў гарэць. Відаць, здзейсніўся нейкі цуд, незразумелы звычайным грэшнікам.

* * *

*Kiedy Saddam Husajn zaczął przeszkadzać inspektorom ONZ i Stany Zjednoczone zagroziły zbrojną interwencją, Niemcy poparli Amerykanów, ale o wysyłaniu niemieckich wojsk nad Zatokę Perską mowy nie było. Polski minister spraw zagranicznych z miejsca oferował kontyngent polskich żołnierzy, a parlament w rekordowym tempie uchwalał odpowiednie ustawy. W Polsce wojna nie została nigdy zdyskredytowana. Czym miałby się bowiem karmić polski pacyfizm, skoro nawet Kościół katolicki nie uznaje przekonań chrześcijańskich za wystarczający powód do odmowy służby wojskowej. Wojsko to machina do zabijania, a kapelani wojskowi nie są bynajmniej od tego by przekonywać żołnierzy, że jest inaczej.*

*Polityka, nr 10*

* * *

*Kobiety chcą w kamasze, chcą służyć w wojsku. Podczas dyskusji zorganizowanej przez Białostockie Koło Stowarzyszenia „Młodzi Demokraci" i Samorząd Studencki Wyższej Szkoły Administracji Publicznej w Białymstoku jej uczestniczki udowadniały, że kobieta potrafi zabijać i nawet nie drgnie jej powieka, ani nie przeszkodzi miesiączka.*

*Kurier Poranny, nr 56*

З прычыны таго, што дыскусія адбывалася напярэдадні Дня жанчын, замест кветкі арганізатары павінны падараваць гэтым дамам па адной гранаце. Хай сабе ляжалі б у сумках замест губной памады.

* * *

*Rząd w trybie pilnym — z udziałem organizacji kombatanckich, ekspertów od historii i geografii oraz specjalistów z TVP — powinien określić rejony historycznej Polski, które muszą zostać objęte specjalną ochroną. Ochrona polegałaby na tym, iż artystom nie wolno sugerować, że na terenach chronionych dochodziło kiedykolwiek do kontaktów erotycznych. Terenem chronionym musi być niewątpliwie Wileńszczyzna — ostoja narodowych wartości, gdzie, jak wiadomo, jedyną formą seksu był pocałunek składany przez matkę, żonę, narzeczoną na czoło powstańca ruszającego na śmiertelny bój z odwiecznym wrogiem. Geografię trzeba by w sposób przejrzysty skorelować z historią. Trzeba jasno określić warunki, na jakich seks może być dopuszczony w Kongresówce, Zachodniej Galicji oraz na ziemiach odzyskanych. Dochodziło wszak do gorszących przypadków, gdy w filmie Andrzeja Wajdy „Kanał" powstańcy warszawscy kochali się z łączniczkami. Prawdziwy Polak powinien wyłącznie walczyć i myśleć o rzeczach wzniosłych.*

*Gazeta Wyborcza, nr 55*

Amen.

# З мінулага тыдня

**64% грамадзян Польшчы** выказалася б за далучэнне Польшчы да Еўрасаюза, калі б цяпер правесці рэферэндум у гэтай справе (у красавіку 1997 г. — 72%). 9% галасавала б супраць, а 13% не прыняло б удзелу ў галасаванні. За далучэнне выказваюцца пераважна маладыя, адукаваныя людзі, а супраць — сяляне, прыхільнікі ПСЛ і РОП.

**Беластоцкая зямля** — так будзе называцца адно з дванаццаці вялікіх ваяводстваў, якія паўстануць у выніку новага трохступеньчатага адміністрацыйнага дзялення краіны. У склад Беластоцкай зямлі ўвойдуць цяперашне Беластоцкае і Ломжынскае ваяводствы ды частка Сувальскага (без Мазураў). У праекце Рады Міністраў прадугледжваецца ўвядзенне другой адміністрацыйнай ступені (пасрэднай паміж гмінай і ваяводствам) і падзел краіны на 307 паветаў.

**Прафесар Ежы Навасельскі** — адзін з самых выдатных польскіх мастакоў XX стагоддзя — узнагароджаны Вялікім крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы. Прафесар, якому споўнілася 75 гадоў, мастацтвам займаецца ўжо паўвека. Уплыў на ягоную творчасць аказалі старажытнаегіпецкае мастацтва, імпрэсіяністы, сюррэалісты і перш за ўсё ікона. Іканапісу будучы мастак вучыўся ў лаўры св. Іаана Хрысціцеля ў Львове. Работы прафесара Навасельскага ўпрыгожваюць многія праваслаўныя храмы.

**Беластоцкія купцы** праводзяць збор подпісаў пад заявай аб вотум недаверу беластоцкаму ваяводу. Петыцыя з подпісамі будзе перададзена прэм'ер-міністру з патрабаваннем вызваліць **Крыстыну Лукашук** ад пасады ваяводы, якая, на іх думку, ненадзейна дбае пра інтарэсы жыхароў ваяводства. За ваяводай заступілася беластоцкая „Салідарнасць". У выдадзенай заяве прафсаюзныя дзеячы рашуча супрацьставяцца „усялякім дзеянням тых, якія аспрэчваюць кампетэнтнасць і спраўнасць дзеянняў беластоцкага ваяводы".

**Універсітэт** у Беластоку на 12 напрамках і 5 спецыяльнасцях прыме 3175 студэнтаў, у тым ліку 1090 на дзённыя магістэрскія аддзяленні, на 460 асоб больш, чым у мінулым годзе. Плануецца стварэнне двух новых аддзяленняў — Грамадазнаўчага, у якога саставе апынуцца б гісторыя і сацыялогія і Філалагічнага з паланістыкай, русістыкай ды з англійскай і раманскай філалогіямі на ліцэнцыяцкім узроўні.

**Веслаў Ружаньскі** — намеснік начальніка Аддзялення адукацыі Гарадской управы ў Беластоку выйграў конкурс на пасаду куратара асветы ў Беластоку.

**Тамаш Сахарчук** — вучань II класа Бельскага беларускага ліцэя заваяваў званне лаўрэата XXXIX Алімпіяды ведаў пра Польшчу і сучасны свет, якой асноўнай тэмай была „Польшча на шляху ў НАТО і Еўрасаюз". Да алімпіяды ліцэіста рыхтаваў настаўнік **Уладзімір Вавульскі**.

**Праваслаўнае брацтва** правяло акцыю збору ахвяраванняў для дома сацыяльнай апекі „Арка" ў Кожыне Бельскай гміны. На заклік арганізатараў адгукнулася некалькі дзесяткаў беластачан, якія новастворанай гуманітарнай установе перадалі мэблю, пасцель і грошы.

**У сувязі з планамі** пераўтварэння ўсёй Белавежскай пушчы ў нацыянальны парк войт Белавежскай гміны **Станіслаў Куяк** выступіў з пастулатам навелізацыі закона аб гэтай форме аховы лясных комплексаў. На яго думку, закон ад 1991 года павінен быць змякчаны ў такой ступені, каб парк служыў людзям, а не наадварот.

# Весткі з Беларусі

**Затрыманне Статкевіча**

Міліцыя затрымала ў Менску на дзве гадзіны лідэра Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Міколу Статкевіча, які ўзначальваў дэманстрацыю ў чацвёртую гадавіну ўхвалення Вярхоўным Саветам XIII склікання канстытуцыі, адменэнай потым у выніку прэзідэнцкага рэферэндуму. У пратэсце ўдзельнічала 2,5 тысячы чалавек, якія патрабавалі вярнуць канстытуцыю 1994 года. Паводле міліцыі, Статкевіч быў затрыманы за скандзіраванне антылукашэнкаўскіх лозунгаў.

**Выбары ў 2001 годзе**

Парламенцкія выбары ў Беларусі, а таксама выбары кіраўніка дзяржавы адбудуцца ў 2001 г., згодна з новай рэдакцыяй канстытуцыі 1994 г., — заявіў Аляксандр Лукашэнка. Прэзідэнт назваў абсурднымі і беспадстаўнымі патрабаванні АБСЕ правесці датэрміновыя выбары ў Беларусі. Паводле яго слоў, выкананне гэтых рэкамендацый абазначала б парушэнне дзеючага заканадаўства.

**СБ хоча супрацоўнічаць**

Аб гатоўнасці да новага вітка супрацоўніцтва заявіў прадстаўнік Сусветнага банка ў Беларусі Дэйвід Філіпс на прэс-канферэнцыі ў Віцебску, якая прайшла ў рамках семінара па пытаннях рэалізацыі асноўных палажэнняў мемарандума аб узаемаразуменні. На думку спадара Філіпса, падпісанне мемарандума — важны крок у нармалізацыі крэдытных адносін.

**Міцкевічаўская канферэнцыя**

„Асоба і творчасць Адама Міцкевіча ў кантэксце сусветнай культуры" — тэма міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, якая прайшла ў Брэсце. Яна прымеркавана да 200-годдзя з дня нараджэння паэта, які шмат зрабіў для ўстанаўлення нацыянальных літаратур краін суседзяў і ўпісаў яркую старонку ў сусветную літаратуру і культуру. У канферэнцыі прымалі ўдзел вядомыя літаратуразнаўцы з Беларусі, Польшчы і Літвы, а таксама работнікі асветы, культуры, студэнты брэсцкіх ВНУ.

**Узнаўленне храма**

У Віцебску распачата справа па ўзнаўленні жамчужыны нацыянальнага дойлідства — Успенскага сабора, пабудаванага ў канцы XVII ст. Гэтае пытанне абмяркоўвалася на сустрэчы мэра горада Уладзіміра Пелагейкі, епіскапа Віцебскага і Аршанскага Дзімітрыя, настаяцеля Успенскага сабора а. Анатоля і дэпутата Нацыянальнага сходу Станіслава Гаварушкіна. На пачатак чэрвеня запланаваны прыезд у Віцебск патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II. Да гэтага часу павінна быць прыведзена ў парадак пляцоўка для будаўніцтва сабора і закладзены сімвалічны камень.

**Ратаванне рубля**

На працягу тыдня, калі Аляксандр Лукашэнка прабываў з афіцыйным візітам у Іране і Сірыі, курс долара ў Беларусі павысіўся з 39 тысяч амаль на 50 тысяч рублёў. Узбударажаны абясцэненнем рубля прэзідэнт загадаў Савету Бяспекі разам з Дзяржкамітэтамі кантролю і бяспекі ды Нацыянальным банкам прааналізаваць прычыны складаўшайся сітуацыі і прыняць меры па стабілізацыі сітуацыі ў валютна-фінансавай сферы. Абвінавачванняў у „антыдзяржаўнай дзейнасці" найбольш баяцца работнікі Нацбанка, якія памятаюць арышт свайго папярэдняга шэфа Тамары Віннікавай.

**Чарнобыльская літаратура**

У Менску адбылася прэзентацыя твораў беларускіх аўтараў, якія асноўнай тэмай сваёй творчасці абралі чарнобыльскую трагедыю. На прэзентацыі была прадстаўлена кніга Міколы Мятліцкага „Кніга жыцця Бабчына". Чарнобыльская катастрофа адабрала ў паэта радзіму — вёску Бабчына, што ў Хойніцкім раёне. Для чытачоў жа гэтая вёска праз паэзію Мятліцкага ўспрымаецца як абагульнены вобраз дзесяткаў пацярпелых населеных пунктаў, якія пакуль яшчэ засталіся на картах, але жыццё ў іх спынілася.

**Бізнесмен за кратамі**

Пракуратура Гомельскай вобласці выдала санкцыю на арышт намесніка генеральнага дырэктара Вытворчага аб'яднання „Беларусьнафта" Уладзіміра Налігача, які курыраваў у аб'яднанні сацыяльную сферу. Налігачу інкрымінуецца выкарыстанне службовага становішча ў асабістых мэтах.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Мітрапаліт Васілій і Пружана.
- Ці Белавежа стане паветам?
- Новая паэтычная група ў Гайнаўцы.

# Помнік розным праваслаўным

У пятніцу 13 сакавіка ў сядзібе ГП БГКТ адбылася прэс-канферэнцыя скліканая праўленнем Таварыства пабудовы помніка праваслаўным жыхарам Беласточчыны пабітым, памардаваным, замучаным і загінуўшым у гадах 1939—1956. Помнік мае быць сімвалам „грамадскай вязі ў рэлігійным плане з трагічнай смерцю асоб, якія:

— змагаліся і загінулі ў абароне краіны ў 1939 г. і ў лагерах для палонных;

— у савецкі перыяд былі вывезены і не вярнуліся, і пасля мабілізацыі змагаліся ў радах Савецкай Арміі і палі;

— палі на заходніх франтах;

— падчас нямецкай акупацыі страцілі жыццё ў лагерах смерці або на Беластоцкай зямлі;

— былі вывезены ў Трэці рэйх на прымусовыя работы і не вярнуліся;

— загінулі пасля вызвалення ў 1944—1956 гг. за свае перакананні, рэлігійную прыналежнасць і ў абароне сваёй маёмасці".

Старшыня праўлення, спадар Канстанцін Масальскі, пазнаёміў прысутных пра ход працы Таварыства. Паявіліся ўжо пэўныя бюракратычныя спазненні з боку ваяводскіх улад, якія старшыня намагаецца тлумачыць паслявыбарчымі зменамі. Пачалася ўжо зборка грошай у прыходах Бельска-Варшаўскай епархіі; першымі паступілі ахвяраванні з Сакоў Кляшчэлеўскага дэканата. Пачаткова, планаванае на 1999 год — круглую гадавіну пачатку перыяду ўшанавання — адкрыццё мемарыялу, адтэрмінавана на 2000 год — круглую канфесійную гадавіну.

Пра выгляд помніка расказаў аўтар яго праекта, скульптар Ежы Грыгарчук. Мае гэта быць фігуральная скульптура вышынёю да дзевяці метраў, завершаная выяваю Пагоні, якая мае быць сімвалам яднання ўсіх этнічных груп Падляшша. На чатырохграннай калоне маюць быць чатыры іконы і таблiцы з назвамі ўсіх месцаў мартыралогii. Помнік плануецца паставіць на скверы між Свята-Мікалаеўскім саборам і гасцініцай „Крысталь", між вуліцаю Ліповай і архітэктурнаю выявай „Szalet publiczny". Будаўнічыя матэрыялы маюць быць дастаўлены з Беларусі.

Зацікаўленне брыфінгам выказалі толькі мясцовыя штодзёнкі і публічнае радыё. Больш паловы прызначаных запрошаным сродкам масавай інфармацыі буклетаў не дачакалася спадзяваных папулярызатараў.

* * *

**Votum apostatum**

У інфармацыйным буклеце, абнародаваным Таварыствам, са здзіўленнем убачыў я сябе ў характары члена ініцыятыўнай групы, якой задачай было заснаванне Таварыства, хаця ніякай ініцыятывы ў гэтым напрамку я не праявіў; прысутнічаў я толькі — па загадзе свайго начальства! — на першым сходзе ініцыятараў. Паколькі аўтары буклета выставілі мяне так пантамімна-маскарадна, адчуваю абавязак азвацца сваім адступніцкім голасам, бо мае адносіны да гэтай ініцыятывы, далікатна кажучы, вельмі памяркоўныя. Не з'яўляюся я энтузіястам помнікастаўляльнай гонкі, якая ахапіла нашу краіну. Не выклікае ў мяне энтузіязму і рэлігійны апартэід, якога мацуючым звяном мае шанц стаць прапанаваная ініцыятыва; ці ж мала яшчэ такога ў нас і каму такое выгадна? Знеахвочвае канфесійны, а не выразна маральны, адрас помніка. Да таго ж яшчэ трэба спадзявацца адрасавання яго „праваслаўным палякам" — не маю ўпэўненасці, ці яны, пакойнікі тыя, не палічылі б гэтага здзекам. Будаўнічыя матэрыялы маюць быць ад „праваслаўных атэістаў" — ці мае быць гэта форма ўшанавання, ці свайго роду матэрыяльная кампенсацыя накшталт нямецкіх рэпарацый? Вяршыць мемарыял, быццам у нейкіх язычнікаў, мае разагнаны здаком конь: ці нагадвае ён нейкім чынам пра трагічны лёс адрасатаў помніка, ці хутчэй за ўсё натое ён там, каб — прашу прабачэння за грэшна-з'едлівую асацыяцыю — з таго ўсяго *koń się uśmiał*?

Гэты рэлігійніцкі фальклор, якім ахутана неблагую задуму ўшанавання памяці нашых землякоў — ахвяр узброенага насілля чужынцаў часу апошняй вайны і яе паследкаў, нагадвае мне іншыя галіны дзейнасці нашых „тутэйшых"... Дарэчы, гэта ўсё вельмі своечасова: „нашы" рэлігійніцкія паперкі разглядаць будуць улады з рэлігійніцкай падачы „не нашых". Ужо ёсць валакіта, якую „нашы" па-лакейскі тлумачаць зменай „не нашых" уладаў... Цікава, як яшчэ доўга будуць тыя самыя ўлады „зьмяняцца". Намеснік К. Масальскага, Пётр Крук, сказаў на згаданай канферэнцыі, што гэтая ініцыятыва мае „закрыць перыяд". Штосьці мне здаецца, што тое „закрыццё", якое ўжо на працягу года атрымала таксама гадавое адтэрмінаванне, будзе надалей паспяхова адтэрміноўвацца. Чаго ж іншага можна было спадзявацца, замазваючы нерэлятыўную маральнасць „тутэйшымі" рэлігійніцкімі мускуламі?..

Не помню ўжо, ці дзе я чуў, ці прачытаў, што на працягу чвэрці стагоддзя перад згаданым 1939 годам некаторыя канфесійныя аб'екты на Беласточчыне сталі неафітамі...

Гісторыя ці не колам коціцца? Зачараваным...

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Адозва

Шаноўнае Спадарства! Прыйшоў час, калі трэба закрыць адзін вельмі драматычны этап у гісторыі нашай Беластоцкай зямлі. І хаця, мабыць, многія з нас да канца жыцця не змогуць забыць перажытыя драмы, трагедыі, а нават паражэнні, дык на сённяшні дзень гэта ўжо гісторыя, якая патрабуе задумацца над мінулымі падзеямі, прадумаць усё і зрабіць вывады на будучыню. Многія справы ўжо выраашыліся. Аднак многія з іх ужо ніколі не будуць высветлены, ні выпраўлены. Такім малым сімвалічным выпраўленнем, Шаноўнае Спадарства, з'яўляецца пачын людзей добрай волі, якія ініцыявалі і сарганізавалі Таварыства будовы Помніка праваслаўным жыхарам Беласточчыны забітым, памардаваным, замучаным і прапаўшым у 1939-1956 гадах. Не будзем пералічваць гэтых трагічных здарэнняў, бо не такая наша мэта, каб рабіць гэта сёння. Зробім гэтае на ўрачыстай пераклічцы ў час адкрыцця помніка.

Шаноўнае Спадарства! Маральным абавязкам усіх людзей добрай волі Беластоцкай зямлі з'яўляецца аказаць пашану пакутнікам і ўшанаваць іх памяць шляхам узвядзення помніка. Каб ажыццяўленне гэтай задумы было магчымае, апрача добрай волі патрэбны яшчэ грошы. Таму звяртаемся з гарачым заклікам да ўсіх арганізацый, цывільных і ваенізаваных структур, дзяржаўных і самаўрадавых органаў, рэлігійных арганізацый розных канфесій, ветэранскіх арганізацый, суполак нацыянальных меншасцей і маладзёжных згуртаванняў, дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў, бізнесменаў і прыватных асоб, каб фінансава і маральна падтрымалі гэтую высакародную мэту, у аснову якой лягло імкненне да таго, каб далейшае сужыццё людзей на гэтай зямлі фарміраваць без гістарычных абцяжаранасцей.

А вось банкаўскі рахунак, на які можна пералічваць грашовыя ахвяраванні:

**PKO BP I/O Bialystok**
**nr 10201316-379887-270-1**

Паведамляем яшчэ, што маем распрацаваную анкету па зборы вестак аб забітых, памардаваных, замучаных і прапаўшых у 1939-1956 гадах. Прозвішчы гэтых асоб будуць памешчаны ў кнізе памяці. Анкеты можна атрымаць і запоўненыя здаць у сядзібе Беларускага грамадска-культурнага таварыства, вул. Варшаўская, 11, у Беластоку.

**Управа Таварыства будовы Помніка праваслаўным жыхарам Беласточчыны**

# Як працуе Гарадская рада?

[1 ☞ працяг]

выбаршчыкамі. Пасля ж гэта выбаршчыкі будуць ацэньваць іхнюю працу — галасуючы ў час чарговых выбараў.

***— Нядаўна прыняты быў бюджэт горада на 1998 год. Ці павялічыла сродкаў на інвестыцыі?***

— За апошнія гады мы рэалізавалі дзве вялікія інвестыцыі. Пабудавалі ачышчальню сцёкаў за 85 мільярдаў старых злотых, з якой вельмі паншанцавала. З розных фондаў атрымалі 75 мільярдаў ст. зл., а толькі 10 мільярдаў гэта ўласныя сродкі. Другая вялікая інвестыцыя — пабудова школы. Апрача гэтага вялікія працы на вуліцах. Бюджэт на 1998 год лічу добрым, бо павялічваецца колькасць грошай на інвестыцыі (да 25 мільярдаў ст. зл.). Прадбачваем шмат лакальных работ. Будзем класці водаправоды, каналізацыю, рамантаваць і асфальтаваць вуліцы. Часта нашых жыхароў менш цікавяць вялікія пабудовы, а тыя, якія тычацца іх непасрэдна, вуліц і наваколля.

***— Паводле якога прынцыпу ідзе падзел сродкаў на канкрэтныя вуліцы?***

— Тут дзейнічае права рынку. Калі ёсць ахвотныя да грамадскага пачыну і частковага фінансавання з уласных сродкаў, туды ў першую чаргу накіроўваюцца гарадскія грошы. Мы ўжо спрактыкаваліся, што пабудовы грамадскімі пачынамі ў пяць разоў таннейшыя, чым звычайныя інвестыцыі. Можна тут узяць вуліцу Баечную, дзе грамадскім пачынам клалі каналізацыю, а пасля асфальтавалі. Апрача сваёй працы, жыхары гэтай вуліцы сабралі яшчэ прыблізна па 5 мільёнаў ст. зл. Іншыя невялікія вуліцы таксама дачакаюцца і каналізацыі і асфальтавання, але без уласнай працы можа гэта быць, напрыклад, праз 9 гадоў.

***— Зараз у нашым рэгіёне вялікае беспрацоўе. Як з працай у Гайнаўцы?***

— Улады кожнай гміны мараць, каб не было беспрацоўя, але аб гэтым вырашае капітал. Паколькі сюды, на ўсход, цяжка прыцягнуць вялікія грошы, ёсць і беспрацоўе. Зараз у Гайнаўцы больш чым 10% працаздольнага насельніцтва застаецца без работы. Калі мужчынам яшчэ лягчэй нешта знайсці, дык жанчыны вымушаны браць працу не звязаную з іх адукацыяй. У маім прадпрыемстве здарылася, што кабета з вышэйшай адукацыяй прасіла прыняць яе на працу прыбіральшчыцай. Цяпер у Гайнаўцы падаткі ад прадпрыемстваў самыя нізкія ў ваколіцы, але гэта не вырашае праблем.

***— Ад часу, калі ўвялі гмінныя самаўрады, Вы з'яўляецеся гайнаўскім радным. Што на Вашу думку можна было б яшчэ зрабіць, каб удасканаліць працу самаўрадаў?***

— Самаўрадавую рэформу лічу вельмі трапнай таму, што наблізіла яна ўладу да людзей. Зрабіла яе непасрэдна залежнай ад галасоў выбаршчыкаў. Дрэннымі лічу новыя прапановы, каб непасрэдна выбіраць бурмістраў, бо можа здарыцца так, што бурмістр не будзе мець падтрымкі ў большасці радных. Тады цяжка будзе вырашаць важныя для горада справы.

***— Дзякую за размову.***

# Радныя супраць войта

13 сакавіка г.г. адбылося пасяджэнне Камісіі па справах самаўрада і камунальнай маёмасці Гміннай рады ў Орлі. Удзельнікаў пасяджэння найбольш узбударажылі паводзіны войта гміны, што паслужыла прычынай падрыхтавання прапановы аб вызваленні Міхала Іванчука ад гэтай пасады. У ёй мясцовыя радныя звяртаюць увагу на выпадкі злоўжывання войтам алкагольнымі напіткамі ў часе выконвання службовых абавязкаў, на ягоныя адміністрацыйныя пакаранні, што знайшло свой адбітак у прэсавых публікацыях і радыёрэпартажу. Апрача гэтага войту ставіцца ў закід негаспадарнасць, неадпаведнае дбанне пра справы жыхароў гміны і грэбаванне раднымі.

Прапанова камісіі перададзена на разгляд сесіі Гміннай рады, якая адбудзецца ў апошніх днях сакавіка.

**Міхал Мінцэвіч**

# Актыўны „Цецярук"

У гэтым годзе Паляўнічы гуртох „Цецярук" у Кляшчэлях будзе святкаваць 50-годдзе свайго існавання. Цяпер у ім 52 паляўнічых і трое кандыдатаў. Старшынствуе яму Мікалай Младзяноўскі. „Цецярук" арандуе 12 685 гектараў, на якіх вядзе паляўнічую і гаспадарчую дзейнасць, а таксама падкормлівае дзічыну ды дзікіх птушак.

Дзевяць гектараў паляўнічыя абсяваюць жытам, аўсом ды кукурузай, а таксама садзяць на іх бульбу. Зімняю парою ў спецыяльныя кармушкі прывозяць сена ды зерне збожжавых культур. Даход у гуртох паступае з продажу злоўленых у сетку жывых зайцаў, а таксама дэвізных паляванняў.

У канцы мінулага года паляўнічыя закончылі пабудову стрэльбішча ў старой жвіроўні каля Дабрывады. Тут будуць удасканальваць сваю стралецкую ўмеласць ды праводзіць спаборніцтвы ў стральбе з паляўнічай агнястрэльнай зброі. Пры пабудове шмат папрацавалі, між іншым, Уладзімір Качко, Юрка Артысевіч, Сцяпан Краўчук, Васіль Младзяноўскі і Яўген Васілеўскі.

Варта дадаць, што кляшчэлеўскія паляўнічыя наладзілі супрацоўніцтва з членамі Паляўнічага гуртка „Пушча" ў Белавежы. М.інш. запрасілі да сябе на ўрачыстае адкрыццё стрэльбішча. Белавежскія трубачы Віктар Вашкевіч і Вінцук Няроба сыгралі паляўнічы марш і іншыя мелодыі: „Канец палявання" ды сігнал „Запрашэнне на пачастунак". **(гаї)**

# Як дапамагаць

**Алесь БЯЛЯЦКІ — старшыня Праваабарончага цэнтра „Вясна '96".**

***— Колькі асоб у Беларусі пацярпелі ад рэжыму ў апошні час?***

— Усяго за 1997 год недзе 1300 асоб. Гэта былі зняволеныя, затрыманыя на кароткі тэрмін, пабітыя міліцыяй.

***— Хто ім дапамагае?***

— Галоўным чынам, дзве арганізацыі: Хельсінскі камітэт і наш Праваабарончы цэнтр „Вясна '96". Прычым, Хельсінскі камітэт займаецца пытаннем правоў чалавека больш тэарэтычна, арганізуе канферэнцыі, займаецца распаўсюджваннем інфармацыі, выходзіць на міжнародную арэну. Мы аказваем канкрэтную дапамогу зняволеным: перадаем пасылкі, дапамагаем матэрыяльна іхнім сем'ям, збіраем грошы на адвакатаў і іншыя судовыя расходы. У справе Лабковіча і Шыдлоўскага дапамагла „Хартыя '97" — знайшла грошы, якія дазволілі заткаць нейкія дзіркі ў час зняволення і працэсу ды выйшла на Еўрапарламент, які ў сваёй рэзалюцыі пра парушэнні правоў чалавека ў Беларусі асобны абзац прысвяціў гэтым хлопцам.

***— Чым вам можа дапамагчы замежжа?***

— Нацыскі і заявы міжнароднай супольнасці не дазваляюць разгарнуцца Лукашэнку з масавымі рэпрэсіямі. Але ж патрэбная і канкрэтная матэрыяльная дапамога зняволеным і іх сем'ям, нарэшце, каб аплаціць суды. Трэба як-небудзь забяспечыць вяртанне людзей у нармальнае жыццё пасля турмы. Выслаць такога чалавека ў санаторыю паправіць здароўе, ці за мяжу, проста, свабодна падыхаць. Вельмі важна, каб студэнты, выключаныя з нашых універсітэтаў маглі працягваць вучобу ў замежных вышэйшых школах. Ужо пяць асоб вучыцца ў Маскве, Варшаве, Хельсінкі. Ёсць дамова са Львовам ды яшчэ чэхі абяцалі прыняць дзесяць чалавек.

***— Ці тыя людзі захочуць потым вярнуцца ў Беларусь?***

— Калі вернецца палова, і так будзе добра. Гэта ж будзе эліта — з добрай універсітэцкай адукацыяй, з іншай грамадзянскай свядомасцю — так патрэбнай нашаму народу.

**Гутарыў Мікола ВАЎРАНЮК**

# Кім валодае страх, у таго душа — прах!

Гледзячы на сучаснае, ва ўсіх адносінах гаротнае, становішча роднай Беларусі і яе шматпакутнага карэннага (тутэйшага) народа, абурэнню маймy няма мяжы.

Падумаць толькі: людзей, якія выходзяць на дэманстрацыі, каб выразіць свае адносіны да існуючага рэжыму, нібы тое быдла, прынародна, па-зверску збіваюць гумовымі дубінкамі.

Потым цягаюць іх па судах, дзе штрафуюць на мільён рублёў.

Тых жа, хто не ў стане аплаціць гэтыя неверагодныя штрафы, тут жа апісваюць і канфіскуюць у іх нават самыя неабходныя для нармальнага чалавечага жыцця рэчы.

Людцы добрыя, дык, прабачце, гэта ж вяртанне да далёкіх змрочных часоў рабства і сярэдневяковай інквізіцыі, гэта ж новы вытанчаны сродак канчаткова абязволіць, абыдліць і так ужо ўшчэнт запалоханых людзей і ў рэшце рэшт паставіць іх на калені, выбіўшы з іх усё годнае, чалавечае.

З вышыні сваіх амаль што 73-х гадоў такое аніяк не ўкладваецца ў маім розуме.

Гэта ж трэба, каб такое адбывалася ў самым сэрцы цывілізаванай Еўропы на сутыку, на мяжы XX і XXI стагоддзяў!

Вось чаму я без боязі, без аглядкі, рашуча паставіў свой подпіс пад „Хартыяй '97".

**Алесь Ляскоўскі**

# Нашы карані

**CXVII. Пакуты архірэяў**

У папярэднім адрэзку пісалі мы пра цяжкое становішча ў канцы XVII і на пачатку XVIII стагоддзяў адзінай праваслаўнай на ўсю тадышнюю Рэч Паспалітую Магілёўскай епархіі, гаварылі пра тое, як кароль Аўгуст II Моцны даваў і зараз жа адбіраў на гэтую ж епархію прывілею ўладыку Серапіёну. Але гэта былі толькі кветачкі, ягадкі ж пачалі даспяваць пазней, калі на магілёўскую кафедру быў высвечаны ігумен Сільвестр князь Чэцвярцінскі. З-за таго, што праз беларускія землі, у тым і праз Магілёў, тады перавальвалася паўночная вайна, ён жыў у сваім манастыры на Валыні і адтуль, наколькі здолеў, выконваў свае архіпастырскія абавязкі. Як толькі вайна суцішылася, уладыка Сільвестр у 1722 годзе прыбыў на кафедру ў Магілёў, але мясцовыя каралеўскія ўлады і уніяцкае духавенства сустрэлі яго вельмі варожа. Дайшло да таго, што падбухтораныя імі салдаты і шляхта падчас Літургіі ўварваліся ў манастырскую царкву, пасеклі шаблямі народ, пакалечылі манахаў, схапілі і арыштавалі ўладыку Сільвестра.

Разам з такімі нападамі знешніх ворагаў праваслаўя, пры іх падтрымцы і на іхнюю радасць пачалі дзейнічаць і ўнутраныя ворагі праваслаўнай Царквы. Гэтак ігумен слуцкага Троіцкага манастыра, аднаго з мацнейшых у епархіі і наогул у Беларусі, замест дапамагаць архірэю ў такім цяжкім становішчы, ён наадварот — не прызнаў яго ўлады, сярод манахаў таксама пачаліся падзелы і сваркі. Гэтым якраз жа пакарысталіся уніяты і захапілі некалькі манастыроў і цэркваў на Беларусі. Ад прыкрасцей і згрызот уладыка Сільвестр памёр у 1728 годзе.

Гэтыя спрэчкі ды калатня паміж духавенствам яшчэ болей узмацніліся ў наступных гадах. Вядома, імі не прамінулі пакарыстацца непрыхільныя праваслаўнай царкве ўлады. Гэтак было з епіскапам Арсеніем. Супраць яго тадышні адміністратар епархіі ігумен мінскага манастыра Гедэон, узлаваны, што не яго пасвяцілі ў епіскапа, узбунтаваў прыхаджан супраць уладыкі Арсенія. Архірэю пагражалі нават забойствам. А кароль Аўгуст II Моцны пакарыстаўся гэтым і не прызнаў яго епіскапам. Уладыка Арсеній падаўся да караля ў Варшаву з тлумачэннем. Але кароль аднёсся да яго далёка не па-каралеўску, зняважыў яго і загадаў выгнаць з замка.

Уладыка Арсеній пакорліва пакінуў замак і падаўся дамоў у Магілёў, а за ім ехалі каралеўскія пасыльныя з загадам да магілёўскіх уладаў, каб тыя выгналі праваслаўнага архіпастыра з горада. І няшчасны ўладыка, адзіны праваслаўны архірэй на ўсю Рэч Паспалітую, вымушаны быў пакінуць сваіх верных, духавенства, кафедру і падацца на выгнанне ў Расію. Такі быў лёс архіпастыра, а што перанасіла і перажывала манастырскае і парафіяльнае духавенства? Што цярпелі звычайныя свецкія праваслаўныя людзі? Пра тое вядома толькі Усявышняму.

**Мікола Гайдук**

# Традыцыя

Пачынаецца вясна і згодна з традыцыяй у цэлым свеце людзі стараюцца адзначыць прыход гэтай пары года, якая з'яўляецца сімвалам надзеі, маладосці, радасці. Паганская традыцыя ўшанавання пачатку вясны і лета закаранілася ў шматлікіх хрысціянскіх грамадствах. Абазначала яна заўсёды і тугу зняволенага люду па свабодзе, дэманстрацыю волі жыцця ў свабодзе. У час прыгоннага права сяляне сваёй абраднасцю праяўлялі прагу дасягнуць свабоду птушак, ветру, вады, усіх тых сіл прыроды, якіх не здолеў бы зняволіць палітычны парадак.

Ушанаванне прыходу вясны на Беларусі ў гэтым годзе пачалося вельмі рана, калі снег і холад напаміналі пра глыбокі сон прыроды. Чалавечы інстынкт, відаць, у сучасным свеце апераджае прыродныя сілы. 15 сакавіка ў Менску некалькі тысяч дэманстрантаў з бел-чырвона-белымі сцягамі патрабавалі свабоду для народа, вызвалення палітычных вязняў, адыходу змрочных сіл, якія запанавалі над стомленай Бацькаўшчынай. 21 і 25 сакавіка — гэта даты ўжо як бы ўпісаныя ў традыцыю веснавой беларускай абраднасці.

Калі аднак 15 сакавіка невялікі працэнт жыхароў Менска патрабаваў свабоды, большасць грамадства, замбіраваная васмідзесяцігадовым выхаваннем, сядзела ў сваіх хатах і слухала апавяданні гаспадзіна Лукашэнкі пра ягоную паездку ў Іран, Сірыю і ўстанаўленне сяброўскіх кантактаў з тамашнімі дыктатарскімі рэжымамі. Ад часу, калі 25 сакавіка 1918 года беларускае нацыянальнае прадстаўніцтва аб'явіла свету волю люду жыць на сваёй зямлі, паводле законаў устаноўленых галасам народа беларусы падзяліліся на тых, якія адобрылі гэтую ідэю, і тых, якім яна явіцца небяспечным авантурызмам. Пры канцы снежня 1918 года грузін Іосіф Сталін і армянін Аляксандр Мяснікян, з дазволу Леніна, устанавілі своеасаблівую дзяржаўнасць, якую назвалі Сацыялістычнай Савецкай Беларускай Рэспублікай. Пасля пару разоў мянялі яе назву і тэрыторыю, але традыцыя, якая ўзнікла падчас нараджэння бэсэсэраўшчыны, асталася па сённяшні дзень. Калісь ставіліся ў Беларусі марыянетачныя ўлады ды так яно асталося далей. Спроба вяртання ідэалаў 25 Сакавіка і традыцыі Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1990-1994 гадах не знайшла належнага ні грамадскага адабрэння, ні дастатковай волі беларускіх элітаў, каб давесці гэты працэс да паспяховага завяршэння.

Аднак сёння як ніколі, згодна міжнароднаму праву, Беларусь мае ўсе прыкметы самастойнай дзяржавы. Нават не трэба, як іншым зняволеным народам, змагацца за ўстанаўленне фармальнага суверэнітэту. Ён у Беларусі проста ёсць. Дастаткова ёй мець уладную структуру, якая не будзе імкнуцца да знішчэння існуючай дзяржаўнасці. У ніводнага еўрапейскага народа не існуе такая праблема і ніводзін народ не дазволіў бы на такі гандаль Бацькаўшчынай, які праводзіць Лукашэнка. Ёсць затым прычына для таго, каб выходзіць людзям на вуліцы Менска і вітаць вясну як вястунку надзеі і свабоды.

**Яўген Міранович**

# Ці „Ніва" дэмаралізуе?

**— Прачытаўшы артыкул Яўгена Мірановіча ў „Ніве" № 7 ад 15.02.1998 г. „Ніва" зноў дэмаралізуе", на ўроку завязалася дыскусія наконт аб'ектывізму і маральнасці „Нівы", — гаворыць настаўнік беларускай мовы II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы, Ян Карчэўскі. — З выказваннямі нашых вучняў хочам пазнаёміць і чытачоў штотыднёвіка.**

— Я думаю, што „Ніва" не паклёпнічае на беларускае асяроддзе, а праўда, аб якой пішацца ў штотыднёвіку, бывае і горкая. „Ніва" ў ніякім выпадку не дэмаралізуе моладзі, якая карыстаецца беларускай газетай на ўроках. Артыкулы выклікаюць многа дыскусій, я не ведаю, як можна было б не чытаць гэтага тыднёвіка.

**Марцін, кл. II „ц"**

— Мне найбольш падабаюцца артыкулы: „Нашы мястэчкі і вёскі" таму, што ідзе там гутарка пра месцы, дзе жывуць нашы дзядулі і бабулі. Цешыць мяне, што многа артыкулаў пра Гайнаўскі беларускі ліцэй і моладзь, якая там вучыцца. Мне „Ніва" падабаецца ў 90%. Адно, што можа дэмаралізаваць у гэтай газеце, гэта „Сардэчныя тайны", якія на маю думку зусім непатрэбныя і не падыходзяць, каб іх друкаваць у такім тыднёвіку. Сапраўды ў „Тайнах" няма нічога цікавага, толькі выдуманыя „гістарыйкі", часта немаральныя.

**Альжбета, кл. II „ц"**

— У нашым Белліцэі ў Гайнаўцы выкарыстоўваем „Ніву" на ўроках беларускай мовы. Гэта не пляткарская газета, а тыднёвік вельмі патрэбны, дзе знаходзяцца і жарт, і гумар, і вершы, і весткі з Беларусі, і казкі, і крыжаванкі, інфармацыі пра пісьменнікаў, культуру, старэйшых людзей. „Ніва", гэта мая адзіная сувязь, за выключэннем урокаў беларускай мовы, з роднай беларускай культурай. Ці „Ніва" дэмаралізуе моладзь? — Праўда, у ёй знаходзяцца „Сардэчныя тайны", але ці сённяшнюю моладзь можна яшчэ гэтым дэмаралізаваць? Думаю, што „Ніву" варта чытаць.

**Ілёна, кл. II „ц"**

— „Ніва" не паклёпнічае на беларускае асяроддзе, а толькі паказвае сваркі сярод лідэраў беларускіх арганізацый. У артыкуле „Ніва" зноў дэмаралізуе" паказана, што ў Сейме прадстаўнікі беларускай меншасці не супрацоўнічаюць згодна ў справах, якія нас тычацца. Кожны цягне ў свой бок. Я думаю, што ўнутраныя сваркі павінны закончыцца.

**Эмілія, кл. I „ц"**

— На маю думку мы, як нацыянальная меншасць павінны быць вельмі рады, што ўвогуле маем магчымасць атрымліваць штотыднёва такую арыгінальную і ўжо папулярную газету беларусаў у Польшчы. Мяне вельмі крадае тое, што сярод нас ёсць асобы, якія даюць „Ніве" такую адмоўную ацэнку!

**Ірэна, кл. I „ц"**

**Апрацаваў (лм)**

# Рэйтынг падсумаваны

**11 сакавіка на пасяджэнні Самаўрадавага сейміка Беластоцкага ваяводства адбылося ўрачыстае падсумаванне вынікаў рэйтынгу раённай прэсы на Беласточчыне.**

Рэйтынг быў абвешчаны ў 1997 годзе ў рамках культурнай акцыі: „Самаўправа — так, самотнасць — не!" (аўтарства былога дырэктара Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы Казімежа Дэркоўскага).

На ўдзел у рэйтынгу далі заяўкі 22 рэдакцыі. У 1997 годзе журы рэйтынгу разглядала, дакладна аналізавала і ацэньвала прысыланыя нумары раённых газет. Некаторыя рэдакцыі дасылалі газету рэгулярна, так, як і выдавалі яе. Іншыя — ад часу да часу, быццам бы ўсяго на патрэбы рэйтынгу.

Прыемна нам паведаміць сваім чытачам, што сярод найлепшых апынуліся газеты, якія выдаюцца ў гмінах, дзе жывуць беларусы. Гэта перш за ўсё „Wiadomości Gródeckie — Гарадоцкія навіны" (галоўны рэдактар — Юрка Хмялеўскі), якія занялі — разам з „Gońcem Knyszyńskim" — першае месца ў катэгорыі штомесячнікаў, IV месца ў гэтай жа групе заняла „Gazeta Hajnowska" (рэдактар — Янка Целушэцкі), V — „Echo Michalowa" (рэдактар — Марк Кузьма) VII — „Nad Narewką" (рэд. — Ядвіга Карпюк), VIII — „Głos Białowieży" (рэд. — Альжбета Ябланоўская) і „Co słychać w gminie Kleszczele" (рэд. — Марыя Клімовіч), IX месца — „Gazeta Czyżowska" (рэд. — Юрка Якімюк).

Што датычыць двухтыднёвікаў, дык на першым месцы апынуўся „Głos Siemiatycz", а на другім — „Białowieżanin". Спецыяльная ўзнагарода была прызнана квартальніку „Uśmiech Seniora", які выходзіць на Антанюку ў Беластоку (рэдактар — Рэната Пэлка).

За што былі ацэнены так высока „Гарадоцкія навіны", якія выдаюцца ўсяго тры гады?

Мне давялося размаўляць з Галенай Марцінкевіч з Аддзела культуры, якая была старшынёю журы ў гэтым рэйтынгу. Яна была проста захоплена гэтай газетай. Падкупляе, казала яна, графічнае афармленне газеты: кожны нумар аздоблены нейкай іншай мастацкай цікавінкай, змест — для рознага ўзросту, заўсёды ён насычаны ўсебаковай праблематыкай з гарадоцкага жыцця. А найважнейшае: тут не забываюцца пра тое, што на гэтай зямлі жылі і жывуць людзі розных нацыянальнасцей, тут дбаюць пра інтэграцыю асяроддзя, а менавіта гэта было не толькі адным з варункаў добрай пункцыі ў рэйтынгу раённага друку, але і з'яўляецца варункам нашага так званага ўваходу ў Еўропу. Усё пачынаецца ад „Малой айчыны"!

Апрача таго, спадарыня Галена Марцінкевіч падкрэслівала нязвыклую стараннасць рэдакцыі „Гарадоцкіх навін", іх пунктуальнасць у дасыланні свежых нумароў газеты на гэты рэйтынг.

Выдаюць гэту газету Рада гміны ў Гарадку і Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі пры дапамозе Фонду Баторыя. Тыраж яе 500 экземпляраў. Чытаюць газету не толькі ў Гарадку. Многія выпісваюць яе ў Беластоку і іншых гарадах Польшчы, куды лёс закінуў былых жыхароў Гарадка.


*Віцэ-ваявода Юзэф Клім узнагароджвае Юрку Хмялеўскага.*

На сейміку былі таксама ўручаны ўзнагароды. Рэдакцыя „Гарадоцкіх навін" атрымала ад самаўрадавага сейміка за I месца 1000 новых злотых, якія ўручыў на рукі рэдактара Юркі Хмялеўскага маршалак сейміка Мечыслаў Янушэўскі, а таксама бронзавую статуэтку „Самаўправа — так, самотнасць — не!" (аўтарка — Марыя Сабацінская) ад імя Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы. Апрача таго, „Гарадоцкім навінам", як і ўсім іншым лепшым раённым газетам, было ўручана сімвалічнае гусінае пяро, вырэзбленае ў дрэве (аўтар — Уладзімір Наумюк з Канюкоў).

Гэта падсумаванне рэйтынгу ў Ваяводскай управе было адначасова як бы развітаннем дырэктара Казімежа Дэркоўскага з Аддзелам культуры, які — як самастойную адзінку — у Беластоку — ліквідавалі.

Не чулі мы, каб дзесьці ў Польшчы зрабілі тое самае, але маршалак сейміка сардэчна дзякаваў адыходзячаму дырэктару за ўсё тое, што ён зрабіў, і за сённяшнюю ўрачыстасць.

Дырэктар Дэркоўскі сваё выступленне падсумаваў дэвізам, якім кіраваўся ў жыцці: „Памятай пра людзей, калі ідзеш уверх. Можа, будуць яны табе патрэбныя, калі будзеш ісці ўніз".

**Ада Чачуга**

*Фота Яна Мальца*

# Зашмат канкурэнтаў я не бачыў...

**З Юркам ХМЯЛЕЎСКІМ, галоўным рэдактарам „Гарадоцкіх навін", заняўшых у апошнім рэйтынгу раённых газет Беласточчыны першае месца ў катэгорыі штомесячнікаў, гутарыць Ада ЧАЧУГА.**

***— Ці спадзяваліся Вы, што перамажаце ў рэйтынгу на найлепш рэдагаваную раённую газету ў Беластоцкім ваяводстве?***

— Я арыентаваўся, якія ў нас ёсць газеты. Я заўважыў, што, хаця кожная з іх мае сваю вартасць, то надта часта яны робяцца па-аматарску. Я не магу сказаць, што „Гарадоцкія навіны" гэта дасканалая газета, але калі з параўноўваў яе з іншымі, зашмат канкурэнтаў я не бачыў.

***— Калі ўзнікла газета „Wiadomości Gródeckie — Гарадоцкія навіны"?***

— У студзені 1995 года. Быў гэта двухмесячнік. Прабавалі мы, аднак, раней — першы пачаў дамагацца газеты Лёнік Тарасэвіч. Радныя папярэдняй кадэнцыі (1990—94 гг.) не бачылі такой патрэбы. Гміна малая, не будзе пра што пісаць, гаварылі яны.

Толькі ў канцы дзевяноста чацвёртага года камісія асветы і культуры Рады гміны на чале з Аляксандрам Карпюком пераканала радных, што газета гміне проста неабходная. Ініцыятыва прайшла двума-трыма галасамі. У пастанове адразу было сказана, што газета будзе двухмоўная.

***— Як Вы сталі рэдактарам гэтай газеты?***

— Улады гміны звярнуліся да нашага журналісцкага асяроддзя, каб хтосьці ўзяўся за рэдагаванне гэтай газеты. Вы ж ведаеце, што ў нас замнога журналістаў няма, але калі газета мела быць двухмоўная, трэба было дапамагчы.

У Гарадок паехалі мы з Алікам Максімюком. Дагаварыліся наконт умоў. Войт сказаў, што на пачатак няхай будзе двухмесячнік. Мы ведалі, што інфармацыі не будуць занадта свежыя, аднак згадзіліся з гэтай прапановай.

Вярнуліся мы ў Беласток, а праз пару дзён памёр Алікаў бацька, і ён вымушаны быў вярнуцца на вёску ды даглядаць бацькаву гаспадарку.

***— І так Вы пачалі рэдагаваць першы нумар?***

— За падрыхтоўку гэтага нумара мы ўзяліся з Лёнікам. Часу не было, давялося спяшацца. Адразу далучыўся да нас мясцовы радны, настаўнік на пенсіі Эдвард Валошын, а недзе каля трэцяга нумара — Юрка Сульжык. Да канца дзевяноста пятага года выйшла шэсць нумароў.

***— Некаторыя лічаць, што „Гарадоцкія навіны" гэта Лёнікава газета.***

— Уклад Лёніка ў рэдагаванне газеты вялікі. Ён зрабіў макету газеты, у кожным нумары ёсць яго ілюстрацыі, здымкі. Ён жа ўсё робіць у грамадскім пачыне. Яшчэ да нядаўна ў кожны нумар ён даваў свой тэкст (з гісторыі Гарадка, пісаў пра сваё дзяцінства, пра бягучыя справы ў Гарадку). Цяпер, калі ён стаў прафесарам Варшаўскай мастацкай акадэміі, піша ў газету менш, але заўсёды знаходзіць час, каб дапамагчы яе рэдагаваць.

***— Ад калі газета стала месячнікам?***

— У канцы дзевяноста пятага года ўлады Гарадка пад націскам чытачоў папрасілі, каб „Гарадоцкія навіны" выходзілі кожны месяц. На гэта знайшліся дадатковыя грошы, а яшчэ, дзякуючы намаганням войта Яўгена Семянюка, былі створаны тэхнічныя ўмовы дзеля таго, каб ствараць газету на месцы. Купілі магутны камп'ютэр і выдзелілі памяшканне для рэдакцыі. З тае пары кожны аўторак (калі ў Гарадку бывае рынак) я маю там сваё дзяжурства і ў рэдакцыю заходзяць чытачы, якія хацелі б пагутарыць.

***— Хто піша ў газету, апрача асноўных яе супрацоўнікаў?***

— Сакрат Яновіч, Ян Карповіч, Юрка Асеннік, Раман Шарамета са Страшава, Яўген Бялькевіч, Ян Грыцук дае вершы, Ян Федзюкевіч. У кожны нумар пішуць дзеткі з чатырох падставовых школ гміны. У нас ёсць спецыяльная рубрыка для дзяцей. Раз у год наладжваем для іх творчыя варштаты. Мяркуем, што з нашых малады карэспандэнтаў вырастуць верныя газеце ліцэісты і студэнты, а пасля і дарослыя людзі.

***— Хто займаецца ў Вас распаўсюджваннем газеты?***

— Адміністрацыйна апякуецца намі Гарадоцкі асяродак культуры, а асабліва шмат увагі нам прысвячае яго дырэктар Тамара Бурачэўская. Яна і арганізуе кальпартаж. Раздзяляе свежы выпуск на пункты: у спажывецкіх крамах, у гмінных і іншых установах, фірмах, школах.

***— Якія тэмы найбольш цікавяць Вашу рэдакцыю?***

— Мы шмат пішам пра жыццё гміны, пра розныя бягучыя справы, пра дзейнасць самаўрадавых улад, даем справаздачы інфармацыйнага тыпу аб пасяджэннях Рады гміны. З іншых матэрыялаў — шмат увагі мы прысвячаем гісторыі Гарадка і Гарадоцкай зямлі. Сёлета мы будзем адзначаць пяцісотгоддзе Гарадка. У сувязі з гэтым даем шмат матэрыялаў пра беларускую мову, беларускія традыцыі.

Мы змяшчаем таксама інфармацыі пра царкоўнае і касцельнае жыццё.

У кожным нумары мы друкуем фрагменты кнігі, напісанай былымі гарадоцкімі яўрэямі, рассеянымі сёння па свеце (Ізраіль, ЗША, Аргенціна і інш.).

Заўсёды ёсць у нас крыжаванка і **старонка смеху і распусты „Кпіны"**, якую рэдагуе Лёнік Тарасэвіч.

***— Якія тэксты змяшчаюцца ў вас на беларускай мове?***

— Мы прынялі прынцып, што тэксты друкуюцца на той мове, на якой яны былі напісаны. Калі па-беларуску, дык і друкуем па-беларуску, калі ж папольску, дык па-польску і друкуем.

***— Атрымаўшы першую ўзнагароду, ці не зложыце вы зброю, бо і так бывае? Тым больш, што Вы ж — перш за ўсё — галоўны рэдактар „Часопіса".***

— Мы бачым яшчэ шмат недахопаў у нас. Ёсць рэчы, над якімі трэба яшчэ папрацаваць. Гэту газету рабіць нялёгка. Цяжка арганізаваць рэдакцыйную працу. Многія рэчы мушу рабіць я сам, не толькі тое, што павінен рабіць галоўны рэдактар.

Хаця гэта гмінная газета, то патрэбны ёй прынамсі адзін штатны працаўнік, якога мы дагэтуль не маем. Добра было б, каб нехта быў на месцы. Тут справа ўжо нават не ў грашах (бо яны, можа б, і знайшліся), але на месцы пакуль што няма людзей, якія б мелі адпаведныя кваліфікацыі і ахвоту.

Мы як рэдакцыя ад самага пачатку лічылі на падтрымку беластоцкага беларускага асяроддзя і „Нівы". Дзякуй Богу, што хаця Міра Лукша крыху дапамагае пры камп'ютэрным складзе. Спадзяюся, што ў будучыні ўсё ж яны больш зацікавяцца нашай газетай і наладзяць з намі супрацоўніцтва.

***— Дзе ў Беластоку можна купіць „Гарадоцкія навіны"?***

— У кнігарні на вуліцы Лінярскага. Але мо лепш было б яе выпісваць, заплаціўшы 30 злотых за гадавую падпіску. GOK. Gródek, Bank Spółdzielczy w B-stoku, Oddział w Gródku 905204-202-3210.

***— Віншую Вас з узнагародай і дзякую за размову.***

**Ада Чачуга**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




# Грунвальд 1410 г.

У 1410 годзе, памірыўшыся з Ягайлам, Вітаўт павёў свае войскі на нямецкіх рыцараў. Пад мястэчкам Грунвальд адбылася вялікая бітва. У смяротным баі сышліся людзі і коні, трава пачырванела ад крыві. Дзякуючы мужнасці беларусаў, палякаў і татараў, якіх прывёў Вітаўт, крыжакі былі разбіты ўшчэнт.

Вітаўт Вялікі стварыў моцную дзяржаву. З ім стараліся жыць у міры і згодзе многія суседзі, бо не толькі баяліся, але і паважалі яго — адважнага, мудрага і справядлівага. Сапраўды, як пісаў Мікола Гусоўскі, Вітаўт „ставіў аголены меч свой, як слуп пагранічны", бароначы і мацуючы Бацькаўшчыну.

**Малюнак і тэкст**
**Пятра ДЗЕМЯНЮКА з Падрэчан,**
**VIII кл. ПШ у Чыжах**

## Праснічка

Гожыя дзяўчаткі
Ля праснічак селі —
Тоненькія ніткі
Цягнуцца з кудзелі.

Віся, верацёнца,
Віся, ды барджджэй!
Доўга тая любіць,
Дзе нітка даўжэй.

Паплыў нарачоны
Ў Кралявец віцінай,
Развітаўся шчыра
З любаю дзяўчынай.

Віся, верацёнца,
Віся, ды барджджэй.
Доўга тая любіць,
Дзе нітка даўжэй.

Хораша прадзецца
Маладой дзяўчыне.
Тры дні сумавала
Аб сваім хлапчыне.

Віся, верацёнца,
Віся, ды барджджэй.
Доўга тая любіць,
Дзе нітка даўжэй.

Сеў тут іншы хлопец
Да яе, ахвочы.
Свецяцца ў дзяўчыны
Зноў ад шчасця вочы.

Віся, верацёнца!
Рвецца нітка — ой!
Залілася дзеўка
Чырванню густой.

# Пішуць школьнікі

**Добры дзень!**

Дарагая „Зорка", пішуць Табе вучаніцы сёмага класа Пачатковай школы ў Чыжах. Мы хочам напісаць пра беларускую вечарыну звязаную з Масленіцай, якая адбылася ў нашай школе. На вечарыне прысутнічалі вучні I—IV класаў. На пачатку выступіла Эвеліна Пліс, якая расказала вучням пра Масленіцу. Потым выступілі вучні VI класа, якія прадставілі сцэнку „Мікітаў лапаць". Пасля сцэнкі ўсе вучні гулялі пры беларускай музыцы. Былі таксама розныя беларускія конкурсы, у якіх дзеці вельмі ахвотна прымалі ўдзел і за гэта атрымоўвалі розныя ўзнагароды. Вечарына ўсім спадабалася.

**Аня БАЧЫНСКАЯ,**
**Моніка ЯКІМЮК**

**Добры дзень!**

Я вучаніца VII „ц" класа Пачатковай школы ў Гарадку.

У лютым 1998 года ў Нарве адбыліся XII Сустрэчы „Зоркі", у якіх я ўдзельнічала. Былі гэта мае другія сустрэчы, зноў у Нарве, і зноў я вельмі добра гуляла.

Хаця было нас там аж 50 асоб, то панаваў настрой зразумення, гармоніі і сяброўства. А з многімі ўдзельнікамі я пасябравала бліжэй.

Мелі мы сімпатычных і мілых апекуноў, з якімі думаю, кожны адчуваў сябе добра і ўпэўнена. Супольна з імі рыхтавалі мы спектакль, які прадставілі ў час апошняй вечарыны, як плён нашага тыднёвага спаткання.

У гэты апошні вечар, у час прэм'еры ўсё ўдалося дасканала. Аб тым сведчылі гучныя воплескі і радасць публікі. Падумала я — варта было рабіць гэта ўсё, хаця б для гэтай аднойй хвіліны.

**Мажэна ГЕНІШЭЎСКАЯ**



*Пятрусь і Тамаш Дзямянюкі з Падрэчан.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Бельскія запусты

27 лютага ў бельскай „тройцы" адбыліся запусты. У мерапрыемстве ўдзельнічалі вучні з нашай школы і моладзь з Ягуштова.

Як першая выступіла група з Ягуштова, якая прадставіла старадаўні абрад — хрысціны, са сваёй вёскі, пад загалоўкам „Хрысціны Іванка Новіцкого". Спектакль мне вельмі падабаўся. У пастаноўцы было многа песень, якія раней спяваліся ў Ягуштове, як „Клёном-лістом" ці „Кум до кумы".

Пасля іх выступлення спадарыня Валянціна Бабулевіч частавала ўдзельнікаў пячэннем і какавай. Выступіла таксама група з Бельска. Прадставілі вясёлы спектакль „Вяселле Камара і Мухі". Яно, як і „Хрысціны", было вельмі цікавае. Гэтымі дзвюма групамі кіруе Дарафей Фіёнік. На канец выступіла моладзь — удзельнікі „XII Сустрэч «Зоркі»". Прадставілі яны некалькі сцэнак апрацаваных у Нарве.

Мне вельмі падабалася ўсё мерапрыемства і думаю, што ўсе гулялі так добра як я.

Хацелася б, каб такія мерапрыемствы арганізаваліся часцей.

**Эвеліна ТЫМАШЭВІЧ**

# Можа, і яны будуць спяваць...



Ах, як ім гэта падабаецца! Дзеткі з Ляўкова прыселі не на крэслах у святліцы, бо адтуль бы яны нічагуткі не ўбачылі, а збочку, на лаўках. Адсюль відаць ім, як на далоні, усё, што дзеецца на сцэне!

А выступае сёння, 28 лютага, не абы-хто, а іхнія, ляўкоўскія „Цаглінкі". Мо тут спявае чыясьці мама, цёця, а нават і бабуля. Сёння яны святкуюць свой юбілей. Дваццаць гадоў таму быў створаны калектыў „Цаглінкі". А назвалі яго так, бо ўсе ўдзельнікі калектыву працавалі на ляўкоўскім керамічным прадпрыемстве. Нават хросным бацькам калектыву стаў дырэктар гэтага прадпрыемства Аляксандр Бандарук.

І керамічнае прадпрыемства, і калектыў „Цаглінкі" добра вядомы тутэйшым малалеткам. Можа, і яны, калі вырастуць і застануцца ў сваёй вёсцы, стануць членамі гэтага мастацкага калектыву. Можа, і яны будуць спяваць... **Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Міфы старой Беларусі

**23. Кумяльган**

Памятаеце добрага апекуна коней Вісунніка? Кумяльган яго супрацьстаўнасць. Гэты злы дух, як і Вісуннік — гібрыд чалавека і каня. Беларусы ўяўлялі Кумяльгана з чалавечым тулавам, такімі ж рукамі і нагамі, пакрытымі конскай поўсцю. На нагах і руках у Кумяльгана капыты, галава конская, паходка раз конская, а раз чалавечая — на задніх нагах. Сама назва паходзіць ад слова *кумяльганіць* — ставіцца на заднія ногі.

Задача Кумяльгана, як верылі беларусы, мучыць коней. У хлеў прыходзіў ён ноччу, ускакваў на каня, душыў яго да той пары, пакуль жывёла не паваліцца з ног. Кумяльган умеў перакінуцца ў любую постаць і масць каня. Ён спакойна ўваходзіў у хлеў і ў дзень. Часам сам гаспадар адчыняў яму дзверы, прымаючы яго за свайго „Варанога".

Кумяльган палохаў пастушкоў, што вадзілі коней на начлег. Яны верылі, што злы дух можа незаўважна пранікнуць у табун і ўкрасці каня, каб недзе пад лесам памучыць яго або забраць ад кабылы жарабя, каб падкінуць яго на пажыву драпежным зверам.

# Польска-беларуская крыжаванка № 13

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Ciekawy | Gitara | | Koryto | | Ryż / Wół | |
| | | | | | | |
| Koral | Taras lodowy | | | | | |
| Katar | | | | | | Sala |
| | | | | | Sarafan | |
| Taryfa / Tata | | | | | On | |
| Jarzębina | | Aniol | | | | |
| | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 8:**

Жывот, рады, экран. Цырк, вар, тын.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Дарота Барташэвіч** з Махнатага, **Андрэй Крук** з Катоўкі, **Давід Галоўскі** са Спічкоў, **Паўліна Кандрусік** і **Анджэліна Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага, **Кася Леанюк** з Гайнаўкі, **Эля Алексяюк** з Кнарыд, **Дарота Дарашкевіч** з Цісоў, **Бажэна Ляўчук** са Старыны і **Дарак Ляўчук** з Чыжык.

**Віншуем!**

Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.

# Пачынаецца ўсё з любві

*(пачатак у 8-ым нумары)*

**Летапісец**: Частка восьмая: Старасць — радасць. П'еска ў чатырох сцэнках. Сцэнка першая: Суседкі.

*(Адна суседка прыбірае хату, другая сядзіць у акне.)*

**Суседка I**: Суседка? А што твой муж дарогі да хаты не ведае?

*(На даляглядзе паяўляецца п'яны муж Суседкі II. Жанчына забірае яго ў хату і кладзе спаць. Далей паяўляецца з жанчынай муж Суседкі I.)*

**Суседка II**: Дык мой хоць сам да хаты ідзе, а твайго чужыя бабы вядуць!

*(На канец сцэнкі суседкі танцуюць танец „гаспадынь".)*

**Летапісец**: Сцэнка другая: Бацькам стаў.

*(Шчаслівы бацька бегае па сцэне, працягвае ўсім руку ў першым радзе. Урэшце ідзе да сябры Пятра, каб падзяліцца сваёй радасцю.)*

**Бацька**: Пятро! Павіншуй мяне. Я зноў... бацькам стаў!

**Пятро**: Дык каго ж Бог даў? Сына?

**Бацька**: Не. Так... Не!

**Пятро**: Дачку?

**Бацька**: Так. А ты адкуль гэта ведаеш?

*(Бацька кідаецца да Пятра з кулакамі, набіўшы сябру выходзіць са сваёй жонкай, спяваючы...)*

*Як ішоў я да дзяўчыны*
*Сярод цёмнай ночы,*
*Сядзіць жаба на купіне,*
*Вырачыла вочы.*

*Я да яе гыля-гыля,*
*Яна палящела.*
*Каб не было ў руцэ кія,*
*Пэўна мяне з'ела б.*

*Як прыйшоў я ад дзяўчыны*
*У самога ранку,*
*Выскачыла маці з ложка*
*Са сваім каханкам.*

*Я да яе добрым словам —*
*Мілая матуля,*
*А яна мяне спытала,*
*Дзе твая кашуля?*

*Як падаў я ёй кашулю,*
*Яна ачмурэла.*
*Са здзіўленнем на каханка*
*Свайго паглядзела.*

*З гэтай песні павучэнне*
*Вось такое маем:*
*Трэба добра прыглядацца,*
*Дзе і з кім лягаем.*

**Летапісец**: Сцэнка трэцяя: Глухая!

*(На сцэну ўваходзіць жанчына з клункамі. Да яе заходзіць кума.)*

**Кума**: Чэсць, Кума! *(Паўтарае галасней.)*

**Глухая**: Я на базары была!

**Кума**: Але ж ты, кума, глуха!

**Глухая**: Я купіла петуха!

**Кума**: А калі ты, кума, стала недачуваць?

**Глухая**: Ой, пайду да дому начаваць.

**Кума**: Э... бывай, кума.

**Глухая**: Сто злоты аддала. Сто злоты. *(Бярэ ўсе клункі і пытае публіку.)* А дзе прыпынак ПКС?

**Голас з публікі**: *(Крычыць.)* У канцы вуліцы!

**Глухая**: Ой, не крычыце так, я ж не глухая!

**Летапісец**: Сцэнка чацвёртая: Дзед і баба — апошняе каханне.

*(На сцэну ўваходзяць дзве асобы і чытаюць верш Вольгі Анацік „Дзед і баба". Пасля на сцэне паяўляецца дзед і ловіць пеўня. Уваходзіць баба і таксама ловіць пеўня. Гавораць. Дзед дастае пляшку гарэлкі.)*

**Дзед**: Я чуў, што твой унук у войску служыць.

**Баба**: Ага. Але не просты ён салдат. Такога чыну дабіўся, што ўсе яго слухаюць.

**Дзед**: Ну, што? Можа ён капрал?

**Баба**: Вышэй.

**Дзед**: То можа камандзір?

**Баба**: Яшчэ вышэй! Барабаншчык!

**Дзед**: А ... барабаншчык?.., барабаншчык, барабаншчык.

**Баба**: *(Уздыхае.)* Апошняе каханне.

*(Дзед выходзіць).*

*(На сцэну выходзяць акцёры з першай і другой дзеі. Усе спяваюць песню „Пачынаецца ўсё з любві".)*

***(Канец)***

## У п'есе былі выкарыстаны наступныя крыніцы:

1. Юліян Тувім „Эва" (пераклад Аліны Ваўранюк).
2. Біблія.
3. Клеменс Брэнтана „Ты прыходзь пакуль не сплю", „Шапоча ў лісцях вецер" — музыка Алег Кабзар.
4. Алег Кабзар, Аліна Ваўранюк „Даўно, даўно гэта было".
5. Яўгенія Янішчыц „Ты пакліч мяне, пазаві" — музыка Альжбета Тамчук і Дарафей Фіёнік.
6. Уільям Шэкспір „Рамэо і Джульета".
7. Максім Багдановіч „Зорка Венера" — музыка Сымон Рак-Міхайлоўскі.
8. Йоган В. Гётэ „Фауст" — музыка Рышард Вагнер „Ноч Вальпургіі".
9. Адам Міцкевіч „Пан Тадэуш".
10. Роберт Бэрнтс „Вясёлыя жабракі".
11. Вольга Анацік „Дзед і баба".
12. Ян Чачот „Праснічка" — музыка Станіслаў Манюшка.
13. Народныя падляшскія песні, запісаныя ў час XI Сустрэч „Зоркі" і маладзёжнага летніку ў Войшках.
14. Калектыў „Красавік" — „Як пайду ў новую канюшню".

П'еса напісана ўдзельнікамі XII Сустрэч „Зоркі".

**Сцэнарый запісала публіцыстычная група: Ірэна Кулік, Жанэта Роля, Эвеліна Тымашэвіч і Ганна Кандрацюк**



Талон „Зоркі" № 13
29.03.1998

# Валодзя — майстар з Варшавы

**Размова з Уладзімірам ПАРФЕНЮКОМ — інструктарам цунамі і філолагам з Варшавы, ураджэнцам вёскі Парыева, што ля Гайнаўкі.**

***— Раскажыце, калі ласка, што такое цунамі? Калі вы заняліся гэтым відам спорту?***

— Цунамі — гэта унікальная сістэма ўсебаковага самаўдасканалення ў псіхічным і фізічным плане, якая выкарыстоўвае прыёмы спартыўнай барацьбы каратэ, а яго мэтай з'яўляецца павышэнне і захоўванне магчыма высокага стану здароўя, а таксама ахова жыцця і здароўя ад магчымых нападкаў. Усходнімі відамі спартыўнай барацьбы пачаў я цікавіцца ў шаснаццацігадовым узросце. Тады, а гэта было яшчэ ў Гайнаўцы, модным было каратэ. Я пачаткова займаўся кіокушын, але хутка пакінуў па прычыне інструктараў, якія не найлепш былі падрыхтаваны да сваёй працы. Потым штудзіраваў я на Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта (1988-1994) і ў сталіцы пачаў займацца цунамі. Тут я застаўся жыць і працаваць. Вельмі цёпла ўспамінаю студэнцкія гады. Гэта спецыфічны перыяд у жыцці маладога чалавека, падчас якога пазнаем многа людзей і калі адкрываюцца новыя магчымасці развіцця ў розных напрамках.

***— Чаму вы выбралі цунамі?***

— Можна сказаць, што выпадкова, хаця паводле кітайскай філасофіі нічога выпадковага не бывае. Шукаў я, шукаў і знайшоў тое, што мне найбольш адпавядала. Цунамі — гэта не спорт, гэта мастацтва. Развівае яно не толькі фізічную сілу, але і псіхіку, розум, вучыць як найлепш жыць. У цунамі практычны падыход да жыцця, бо чалавек павінен мець уплыў на ўсё, што яго акружае, а не наадварот, і старацца развіваць сябе у як найшырэйшым дыяпазоне. Усе веды прыдаюцца ў жыцці.

***— Самая высокая ступень у цунамі — 10 дан. Вы маеце ўжо трэці дан. Каб стаць майстрам, трэба сябе ўсяго прысвяціць справе, ад чагосьці адмовіцца. Як гэта было ў вашым выпадку?***

— Гэта праўда. Хацелася б скаштаваць усяго, але каб нечага дабіцца, давялося адмовіцца, напрыклад, ад экскурсій па студэнцкіх клубах, ад гарэлкі і іншых гульняў. Я ведаў, што інакш мне трэба жыць. Бывала, што я трэніраваўся нават па восем гадзін у суткі. Апрача гэтага я адмаўляўся ад дадатковай навукі, ад кіно і тэатра. Станоўчы бок гэтых адмаўленняў такі, што на працягу трох гадоў стаў я інструктарам. Ступені майстэрства ў цунамі можна параўнаць да асветнай сістэмы. Спачатку ты вучышся ў пачатковай школе, а калі ты добры вучань, тады ідзеш у сярэднюю, затым у вышэйшую школу, а пазней чакаюць цябе ступені магістра, доктара і т.д. Трэці дан абазначае настолькі высокую ступень авалодання і вывучэння цунамі, што я ўжо магу вучыць іншых.

***— Чаму людзі вывучаюць гэты від спорту?***

— На сённяшні дзень у маёй секцыі займаецца каля трыццаці чалавек. Прыходзяць яны на заняткі таму, што адны хочуць навучыцца абараняцца, другія — удасканаліць сілу волі, захаваць адпаведную фізічную кандыцыю і, дзякуючы медытацыі „дзэн", навучыцца дасягаць стан спакою, разраджэння і самавалодання эмоцыямі. Калі хто прыходзіць, каб навучыцца толькі біцца і быць спраўным бандытам, той не разумее мэты ваявання. Дрэнныя людзі прымяняюць каратэ, каб забіць, абакрасці. А каратэ паўстала, каб вучыць людзей абароны. У маім жыцці былі такія сітуацыі, калі я быў прымушаны абараняць сябе і іншых.

***— Якія ў вас планы ў галіне цунамі?***

— У бліжэйшы час буду рыхтавацца да экзаменаў на чацвёрты дан. Гэта патрабуе як фізічнай, так і псіхічнай кандыцыі. Хачу таксама напісаць дыпломную працу, значыць, кніжку пра абарону супраць трох праціўнікаў.

***— Вы ніколі не хаваліся са сваёй нацыянальнасцю. Ці беларускасць не перашкаджае вам у варшаўскім жыцці?***

— Мая беларускасць — гэта факт, які не перашкаджае мне ў нічым. Я заўважыў, што калі чалавек не сароміцца сваёй нацыянальнасці, веры ці паходжання, тады людзі іншых нацый шануюць яго і паважаюць. Сваіх дзяцей таксама буду вучыць беларускаму патрыятызму, бо кожны чалавек павінен ведаць, хто ён такі, перш за ўсё павінен валодаць сваёй роднай мовай. Шалёны Конь — адзін з пастаў індзейскага племені сіу — сказаў, што нацыя, якая забывае сваю традыцыю, мову, культуру прападзе як вецер між сцяблінамі травы.

***— Што для вас абазначае быць беларусам?***

— Гэта вялікая адказнасць, адказнасць за падтрымку нацыянальнай свядомасці, мовы, культуры і г.д. Беларусам можа быць толькі такі чалавек, які робіць усё, каб яго дзеці не саромеліся ў будучыні сваёй сапраўднай беларускай нацыянальнасці.

***— Праз тыдзень адзначаеце сваё трыццацігоддзе. Ці думаеце ўжо пра сваю сям'ю?***

— Мне яшчэ зарана. Каб сур'ёзна думаць пра сваю сям'ю трэба мець кватэру, працу — без гэтага цяжка жыць.

***— А які ваш ідэал жанчыны? Як ставіцеся да алкаголю і наркотыкаў?***

— Жанчына павінна быць далікатнай, скромнай, вернай, таксама адукаванай, мець сваю індывідуальнасць. У адносінах да мужчыны павінна яна быць яму нейкай дапамогай у жыцці. У справе спіртнога ці наркотыкаў трэба памятаць пра памяркоўнасць. Калі хтосьці часам вып'е ці закурыць, нічога дрэннага не станецца, але трэба зважаць, каб не перабраць меру.

***— Ці цунамі можа пасадзейнічаць фарміраванню нацыянальнай свядомасці маладых беларусаў?***

— Безумоўна так, бо цунамі перш за ўсё ўплывае на развіццё чалавечага духу. Людзі, якія займаюцца гэтым відам спорту, умеюць абараняцца не толькі фізічна, яны таксама моцныя ў псіхічным плане. Цунамі вучыць талерантнасці. Мару, каб сарганізаваць у Варшаве клуб, у якім заняткі для маладых беларусаў вёў бы я на беларускай мове.

***— Дзякую вам за рамову.***

**Размаўляў Лукаш Сцепанюк**

PS. Асобы, якія хацелі б трэніравацца ва Уладзіміра Парфенюка, павінны з'явіцца на вуліцы Падбіпенты 2, у школе н-р 320 у Варшаве. Там у спартыўнай зале па панядзелках і серадах у гадзінах 20-22 праводзяцца заняткі па цунамі. Можна кантактавацца па тэлефоне: (0-22) 843-86-21 або 756-75-66.



# Яднанне беларусаў

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь выйшаў з прапановай яднання і мацавання адносін паміж беларусамі ўсяго свету, незалежна ад таго, якімі межамі яны падзелены. На гэтым грунце зарадзілася ініцыятыва наладжваць сустрэчы з творцамі слова і культуры на беларускай зямлі. Першая такая сустрэча адбылася ў Дзяржаўным музеі Якуба Коласа з выпадку выхаду кнігі Сакрата Яновіча „Сцяна". Пры нагодзе была яна прысвечана таксама творчасці Літаратурнага аб'яднання „Белавежа", з якім С. Яновіч ад пачатку неразлучна звязаны і быў адным з яго заснавальнікаў. Апрача аўтара ўдзел ва ўрачыстасці прыняў „белавежац" Міхась Шаховіч.

27 лютага, у чатыры гадзіны пасля абеду зала сустрэч у музеі запоўнілася да апошняга месца. Сустрэчу павёў прафесар Адам Мальдзіс, распачынаючы інфармацыяй аб творчасці Літаратурнага аб'яднання „Белавежа". З гэтага дайшоў да творчасці Сакрата Яновіча і важнасці яе, заадно ў беларускай, як і польскай літаратурах.

Сустрэча мела нетыповы характар, паколькі ператварылася ў своеасаблівы семінар, прысвечаны творчасці С. Яновіча і яго асобе. Сустрэча была б больш цікавая, калі б не спалучаць яе з творчасцю іншых „белавежцаў", а прысвяціць ёй аддзельную імпрэзу. Прафесар А. Мальдзіс павёў урачыстасць такім спосабам, што выклікаў да мікрафона паасобных удзельнікаў, просячы выказацца, што яны думаюць пра творчасць Сакрата Яновіча.

У другой частцы голас узяў С. Яновіч. Расказаў ён пра свае прафесіі, якія вымушаны быў выконваць у сваім жыцці, пра свой творчы варштат, літаратурны плён, як у Польшчы, так і за яе межамі. Закрануў тэму еднасці беларускай літаратуры. Звярнуў увагу на адсутнасць беларускай прэсы на Беласточчыне і немагчымасць падпіскі на нашу ў Рэспубліцы Беларусь.

Чарговай часткай імпрэзы былі пытанні прысутных. У асноўным кранаелі яны тэму еднасці беларускага народа і літаратуры. Выявілася гэта ў выказванні, што беларуская літаратура можа быць толькі адна, незалежна, дзе яна ствараецца. Гаварылі, што „Адам Міцкевіч пісаў не толькі ў Польшчы".

На заканчэнне, па просьбе прафесара Уладзіміра Гніламёдава, Сакрат Яновіч і Міхась Шаховіч прачыталі некалькі сваіх твораў.

**Міхаль Пашкоўскі**

# Тайны белавежскіх птушак

Нядаўна выйшла на польскай мове кніжка Яўгена Пугацэвіча „Вывадкавыя птушкі Белавежскай пушчы". Яе аўтар — арнітолаг-аматар з Гайнаўкі. Выдала кніжку Паўночна-падляшскае таварыства аховы птушак, пры фінансавай дапамозе спонсараў са Швейцарыі і Нямеччыны.

Нягледзячы на тое, што кніжку напісаў аматар, яна на высокім узроўні прафесійнасці. Я. Пугацэвіч пералічвае 159 відаў птушак, якім дае ўсебаковую характарыстыку. Для некаторых відаў птушак даюцца таксама планы іх размяшчэння на апісваемай тэрыторыі. Пералік паасобных відаў папаўняюць раздзелы, у якіх аўтар характарызуе паасобныя групы вывадкавых птушак. Цікавы і апошні раздзел, у якім указваецца на арніталагічныя каштоўнасці Белавежскай пушчы.

Кніжка Яўгена Пугацэвіча з'яўляецца другой у Польшчы спробай комплекснага апісання птушак Белавежскай пушчы. Першай лічыцца праца на англійскай мове двух аўтараў — пакойнага Станіслава Бароўскага і Чэслава Аколава, апублікаваная ў 3 н-ры за 1988 г. часопіса „Acta zoologica cracoviensis". Таксама ў беларускай частцы пушчы былі спробы падсумаваць веды аб пражываючых тут відах птушак. На жаль, праца В. Гаўрына „Птицы Беловежской пущи" з 1953 г. захоўваецца ў машынапіснай форме ў архіве Дзяржаўнага нацыянальнага парку „Белавежская пушча". Пазнейшая спроба Уладзіміра Дацкевіча ахарактарызаваць белавежскіх птушак, закончылася брашурай „Птицы", якая выйшла ў сямісерыйным навукова-папулярным выданні „Беловежская пуща" (1976 г.).

**Пётр Байко**

# Ахвярнасць прыхаджан

**— Каб не ахвярнасць прыхаджан, царкву трэба было б будаваць вельмі доўга, — гаворыць айцец Георгій Ацкевіч, настаяцель Свята-Дзмітрыеўскага прыхода ў Гайнаўцы. — Многа будуецца прыхадскімі пачынамі. Людзі прывозяць драўніну, робяць сталярку, працуюць на будове.**

Праваслаўны прыход Святога Велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Гайнаўцы вельмі малады. Заснаваны ён быў у кастрычніку 1994 года. Ужо 3 чэрвеня 1995 года пад пабудову новай царквы паложаны быў краевугольны камень і адразу пачаліся працы. Хутка пабудавалі падмуркі і ніжнюю частку. 8 студзеня 1996 года служылі ўжо першую літургію, а 8 лістапада 1996 года Яго Блажэнства Васілій, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы свяціў ніжнюю царкву ў памяць Серафіма Caроўскага. Ад гэтага часу багаслужбы адбываюцца рэгулярна. Зараз і пабудова верхняй царквы набліжаецца да канца. Уся яна мураваная, з чырвонай цэглы. Паколькі яшчэ зіма, царква прыкрытая і працы не распачаліся.

— У гэтым годзе плануем зрабіць купалы і прыкрыць, каб у дзень святога Дзмітрыя Салунскага завяршыць храм крыжом, — паведамляе айцец Георгій. — Пабудову нашай царквы фінансуюць, у галоўным, жыхары нашага прыхода, але вялікі таксама ўклад іншых гайнаўскіх праваслаўных вернікаў і жыхароў бліжэйшых парафій. Згодна з дазволам мітрапаліта Васілія кожны год калядуем па праваслаўных прыходах і збіраем грошы ў час важнейшых святаў.

Парафія Святога Дзмітрыя Салунскага найменшая ў Гайнаўцы па колькасці вернікаў (прыблізна 500 дамоў і паўтары тысячы вернікаў), але вялікая па тэрыторыі, бо ахоплівае Парыева, Юдзянку, раён Лясная, Горнае і ўсе іншыя вуліцы ў напрамку цэнтра Гайнаўкі да чыгункі Белавежа—Бельск.

— Калі грошы ў галоўным ідуць на будаўнічыя матэрыялы, вельмі важная бескарыслівая дапамога парафіян. Многія прыходзілі і памагалі мулярам. Прыхаджане самі рабілі вокны, пракладалі электраправады, рабілі Галгофу, Магілу Гасподнюю, аналойчыкі, прастол, — успамінае айцец Георгій. — Аляксандр Маеўскі ўсё дрэва павазіў з лесу. Сталярку для царквы рабілі таксама прыхаджане: Мікола і Пятро Петрочукі, Анатоль Акцэнтовіч, Міхаіл і Ян Амельянюкі. Жанчыны шылі аблачэнні. Аграмадную працу выконвае Камітэт пабудовы царквы. За ўсім жа трэба хадзіць і назіраць.

Айцец Георгій Ацкевіч з'яўляецца таксама і настаўнікам Божага закону ў Беларускім ліцэі і капеланам у Следчым арышце.

— Багаслужбы ў арышце служацца раз у месяц, або калі просяць арыштаваныя. Прыйшлося вянчаць і турэмшчыка. Наша дзяўчына выходзіла замуж за нямецкага грамадзяніна, — кажа настаяцель георгій Ацкевіч. — Пасля перанеслі яго ў Нямеччыну і яна туды паехала.

Зараз назначаны ў парафію вікарны — айцец Марк Якімюк і дыякан — Ян Валкавыцкі. Раней арганізаваліся ў прыходзе сустрэчы з дзяцьмі і моладдзю. Цяпер дыякан Ян Валкавыцкі арганізуе гурток Брацтва праваслаўнай моладзі.

**Аляксей Мароз**

PS. Ахвотных дапамагчы ў пабудове Свята-Дзмітрыеўскай царквы ў Гайнаўцы просім свае ахвяраванні пералічваць на банкаўскі рахунак: **Prawosławna Parafia św. Dymitra, PKO BP Oddział w Hajnówce nr 10201358-3623-270-1**.

# Экуменія і Супрасльская лаўра

У студзені гэтага года ў беластоцкіх храмах праводзіліся шматлікія багаслужбы дзеля ўз'яднання хрысціян. Касцёлы і цэрквы былі запоўнены вернікамі розных канфесій — каталікамі, праваслаўнымі, уніятамі. Прысутныя мелі магчымасць пачуць з вуснаў іерархаў і святароў меркаванні наконт раз'яднання хрысціянскай веры. Я асабіста прысутнічаў у набажэнствах у Фарным і Свята-Духавым касцёлах і Свята-Духавай царкве.

У Фарным касцёле праваслаўны святар а. Савіцкі надзвычай красамоўна гаварыў пра тое, як у штодзённым жыцці паміж праваслаўнымі і каталікамі складаюцца сапраўды хрысціянскія суадносіны. На мой погляд, пропаведзь мела больш тэарэтычны, чым практычны характар, паколькі бацюшка не назваў каго ён меў на думцы: простых жыхароў горада, сялян ці духоўную іерархію? Айцец Савіцкі прамаўчаў справу зміншэння дзяржаўнай датацыі на адбудову Супрасльскага манастыра і паслядоўнасцей для іншых канфесій пасля ўступлення ў сілу канкардата. З вуснаў бацюшкі плылі толькі цёплыя словы.

У Свята-Духавым касцёле уніяцкі біскуп Ян Мартыняк выказваўся таксама памяркоўна, хаця крыўдаваў, што не ўсе грэка-каталіцкія цэрквы былі ім вернуты. Прасіў ён каталіцкіх іерархаў дазволіць яму часцей наведваць Беласток. Мне асабіста ўразіла багаслужба на ўкраінскай мове і прыгожыя спевы царкоўнага хору з Пярэмышля. Падумалася мне тады: ці калі-небудзь мы, беларусы, пачуем у цэрквах багаслужбу на роднай мове? Зусім іншы характар мела выступленне архібіскупа Станіслава Шымэцкага, які спачатку падзяліўся з вернікамі ўражаннямі ад пабыўкі ў папы Яна Паўла II. Адказваючы біскупу Мартыняку, архібіскуп заявіў, што Беласточчына спакон вякоў была грэка-каталіцкай і што уніяты пабудавалі на гэтай зямлі многа храмаў, манастыроў ды асветных цэнтраў, якія пры царызме дасталіся праваслаўным. Тады менавіта была і ліквідаваная унія за кошт пашырэння праваслаўя. Аднак адкуль узяліся уніяты на Беласточчыне каталіцкі іерарх ужо не прыгадаў, затое не забыўся намякнуць, што Супрасльскі манастыр апошнім часам апынуўся ў руках незаконных уладальнікаў.

Як бачым, страсці вакол Супрасльскага манастыра не сціхаюць, нават падчас тыдня малітваў за еднасць хрысціян. Відаць, кожны па-свойму разумее экуменію.

**Ю. П.**

*(прозвішча і адрас да ведама рэдакцыі)*

# У гэтай справе нельга маўчаць

**Адгалоскі**

Змест ліста Аляксандра Баршчэўскага („Ніва" № 50 ад 14.12.1997 г.) вельмі мяне здзівіў, бо аўтар піша няпраўду або падказвае нам нестатутныя дзеянні. На адным з пленумаў ГП БГКТ менавіта Аляксандр Баршчэўскі прапанаваў не мяняць ні назву Таварыства, ні яго культурна-асветную палітыку, бо, як сам сказаў, няма чаго нам саромецца. Па гэтым прынцыпе Таварыства працавала спачатку пад ягоным, а пазней пад Яна Сычэўскага старшынствам. З ліста вынікае, што БГКТ павінна, насуперак свайго статута, заняцца палітыкай у адносінах да Рэспублікі Беларусь і такім чынам ублытацца ў палітычныя гульні паміж уладамі і апазіцыяй, падтрымоўваючы гэтую апошнюю. У такой сітуацыі хачу прыпомніць плён культурна-асветнага супрацоўніцтва БГКТ з афіцыйнымі ўладамі Беларусі. Пералічу толькі важнейшыя факты: матэрыяльная дапамога пры будове Беларускага музея ў Гайнаўцы, друкаванне беларускіх календароў БГКТ, забеспячэнне народных ўбораў мастацкім калектывам, магчымасць навукі для нашых студэнтаў у тамашніх ВНУ, удасканальванне здольнасцяў настаўнікамі беларускай мовы, накіраванне інструктараў у нашы самадзейныя калектывы, арганізацыя турыстычных паездак і адпачынку для дзяцей і моладзі з Беласточчыны, дастаўка падручнікаў, кніжак і прэсы школам і ліцэям, а таксама дапамога ў вырашэнні іншых праблемаў. Не трэба нікому тлумачыць, што ўблытанне БГКТ у палітыку давяло б да парвання кантактаў і спынення дапамогі з беларускага боку. У такой сітуацыі ўступленне на прапанаваны Аляксандрам Баршчэўскім шлях было б шаленствам. З прычыны недахопу фінансаў польскія ўлады не змаглі б нам кампенсаваць страчаную дапамогу.

Некалькі слоў аб бел-чырвона-белым сцягу. У Беларусі адбыўся рэферэндум і грамадзяне выбралі іншы ўзор дзяржаўнага сцяга. Такая была воля беларускага грамадства і яе нам таксама трэба шанаваць. Улада толькі выконвае волю народа. На бел-чырвонабелым сцягу, таксама як і на БССРаўскім, знаходзіцца кроў нявінных людзей. Тое ж можна сказаць і аб нямецкім, італьянскім ці іспанскім сцягах. Лічу, што гістарычная сімволіка выкарыстоўваецца апазіцыяй для сваіх палітычных гульняў.

Я таксама шкадую з прычыны становішча беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь. Аднак аўтар ліста не ўлічвае гістарычных працэсаў і сённяшніх абумоўленасцей беларускага народа. Праўда, яны русіфікацыю, паланізацыю, перыяд уніі і ўсё-такі засталіся сабою. Не павучаймa іх! Трэба памятаць, што беларусы — усходнія славяне, а іх мова, культура, абычаі падобныя на рускія. Рэлігія таксама тая ж. Ім бліжэй да расейскага народа, чым да польскага.

Справу фінансаў Таварыства Аляксандр Баршчэўскі павінен вынесці на прэзідыум, пленум або накіраваць у Галоўную рэвізійную камісію. Старшыня ГП і сакратар — гэта яшчэ не ўся ўлада БГКТ. Ганаровы старшыня не кранаў гэтых пытанняў, відаць, адабраў іх. Шкада, што калі ўладамі БГКТ разглядаліся фінансавыя справы, Аляксандр Баршчэўскі не ўдзельнічаў у гэтых пасяджэннях. Нагадаю, што ўжо некалькі гадоў абавязваюць новыя прынцыпы фінансавання культуры. І раптам аўтар ліста, ні з таго ні з сяго, унутрыарганізацыйную праблему абвясціў усяму свету. Для самарэкламы зрабіў ён гэта? На маю думку, паступіў ён не як прафесар і ганаровы старшыня, але як малакасос. Раней не цікавілі яго гэтыя справы, хаця дэлегаты XII з'езда давярылі яму.

Насуперак заявам А. Баршчэўскага, хачу сцвердзіць, што пасяджэнні прэзідыума і ГП адбываліся згодна са статутам. Ян Сычэўскі не гаварыў маналогаў, але даваў дэталёвыя справаздачы і паказваў праблемы. Не было таксама фактаў глушэння крытыкі. Трэба было ўдзельнічаць ва ўсіх пасяджэннях статутных органаў.

На юбілеі 40-годдзя БГКТ у прэзідыум не запрашаліся былыя старшыні і сакратары ГП БГКТ, бо нельга было іх дзяліць на лепшых і горшых (так яны сябе адчувалі б). Ганаровы старшыня меў падрыхтаваць даклад, але спазніўся на ўрачыстасць і амаль не дайшло да кампраметацыі БГКТ перад уладамі Польшчы і Беларусі. Замест даклада пачулі мы імправізаванае выступленне, не звязанае з гадавінай. А Ян Сычэўскі не стаяў на каленях (бачыла гэта 300 чалавек публікі), а толькі стоячы, з годнасцю і шчыра, так як належыцца ў адносінах да дзяржаўных дзеячаў, вітаў прадстаўнікоў улад Польшчы і Беларусі. Гэта наша нацыянальная рыса. Аб адабрэнні паводзін Я. Сычэўскага сведчаць бурныя апладысменты публікі.

Некаторыя выказванні падыходзяць да вершаў Алеся Барскага, але не да грамадскай і прафесійнай пазіцыі аўтара ліста. Тым больш прыкра, што члены БГКТ з прэсы даведваюцца аб тых пытаннях, якія ён сам не ўмеў вырашыць у рамках арганізацыі. Даходжу да вываду, што аўтар зайздросціць тым, хто ўмее працаваць самастойна і лепш кіраваць Таварыствам, чым ён сам.

**Канстанцін Масальскі**

PS. На адным з пленарных пасяджэнняў ГП БГКТ прапанаваў я арганізаваць круглы стол усіх беларускіх арганізацый, пры заханні іх аўтаноміі тоеснасці. Менавіта Аляксандр Баршчэўскі не згадзіўся са мною і прапанаваў не ўлічыць мой праект у пастанове.

**М. К.**

# Праваслаўе ў Польшчы

У Цеханаве, у Музеі мазавецкай шляхты, штогоду праводзіцца цыкл экуменічных сустрэч. У гэтым годзе на чарговы вечар дырэктар Мар'ян Клубінскі запрасіў уладыку Іерамію, архірэя праваслаўнай Вроцлаўска-Шчэцінскай епархіі, рэктара Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі. Уладыка прачытаў даклад на тэму адносін праваслаўя да трывог сённяшняга дня. Гаварыў ён таксама пра, напружаныя ў яго ацэнцы, суадносіны Праваслаўнай царквы з іншымі канфесіямі выкліканыя уніяцкімі тэндэнцыямі ў каталіцкай, адпраўляннем багаслужбаў жанчынамі ў пратэстантаў і згодай некаторых канфесій на аднаполавыя сужонствы.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Арлянская псеўдакупальня

**У пачатку 90-х гадоў войт Арлянскай гміны пачаў будаваць вадаём на рэчцы Арлянцы, непадалёк самой Орлі. Аднак купальня не атрымалася. Ад працы экскаватара засталіся глыбокія ямы.**



*Побач разрытага рэчышча засталіся глыбокія, смярдзючыя ямы з-пад вывезенага чарназёму.*

Адным з найбольш прыгожых месц Арлянскай гміны з'яўляецца даліна Арлянкі, якую на паўночным-захадзе замыкае бор. Быў тут калісьці вялікі лес, цяпер растуць толькі маладыя сосны, а з боку рэчкі — прыгожыя піхты. Паабапал спакойнай Арлянкі цягнуцца тарфяныя лугі. Менавіта ў гэтым месцы войт вызначыў месца пад купальню. У выніку быў толькі знішчаны надрэчны палетак. Экскаватар некалькі дзён грузіў торф і чарназём на вялікія самазвалы.

Людзі адназначна ацэньваюць войтавы дзеянні: камусьці патрэбны быў чарназём і торф на свой дачны ўчастак. Тады, калі над Арлянкай працаваў экскаватар, адзін самазвал зямлі каштаваў 200 тысяч старых злотых.

— Грошы ў гміную касу не паступілі, — кажа жыхарка Орлі, — затое засталіся глыбокія ямы і знішчанае рэчышча на 50-метровым адрэзку.

— Быццам бы гэты вадаём рабіў войт з думкай пра дзяцей, — кажа іншы жыхар Орлі. — Але ў такі заліў я б дзіця не пусціў, бо ад торфу вада ў ім цёмная, чорная.

Войт у сваю чаргу тлумачыць, што сабе гэтага чарназёму не ўзяў, бо тады ў Бельску, дзе ён жыве, дачнага ўчастка ў яго не было. Набліжаюцца чарговыя самаўрадавыя выбары. У народзе ходзяць чуткі, што войт пачне будаваць новую купальню, гэтым разам з боку Рудутаў. Людзі скептычна ставяцца да гэтай навіны. Яны перакананы, што вынік будзе такім жа самым, беспасняховым. **Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Браканьерству — стоп!

Браканьерства ў Белавежскай пушчы — старое амаль як сама пушча. І хаця яно падвяргаецца пакаранню, бывалі перыяды ў гісторыі, што нават даволі суроваму, то хіба не знойдзецца ніхто, хто меў бы рэцэпт на яго выкараненне. У апошні час прэса паведамляла аб гібелі ў браканьерскіх прыстасаваннях пары белавежскіх ваўкоў. І хіба тыя весткі настолькі ўсхвалявалі вядомую польскую тэлежурналістку Мар'ю Вернікоўскую, што яна пад канец лютага г.г. прыехала ў Белавежскую пушчу, супольна з аператарам Анджэем Вуйцікам, каб зрабіць перадачу аб тутэйшым браканьерстве „Як звярына", у вядомай ейнай серыі „Я бачыла".

Тое, што М. Вернікоўскай удалося зафіксаваць на плёнцы, мы маглі паглядзець 4 сакавіка г.г. па І праграме Польскага тэлебачання (гадз. 22[18]—22[48]). Перад камерай паказалася некалькі вядомых на гэтай тэрыторыі браканьераў. Адзін з іх (як сам прызнаўся, за свой нелегальны занятак шэсць разоў трапляў у турму) даволі падрабязна растлумачыў, як здабывае звярыну, паказаў таксама, як дзейнічаюць розныя роду пасткі. Маглі мы „прысутнічаць" у вобыску, праведзеным паліцыяй у аднаго браканьера, паслухаць, што думаюць аб браканьерстве і асобах, якія гэтым займаюцца, звычайныя жыхары. Шматлікія з іх выказваліся на беларускай гаворцы.

У тэлеперадачы выступіў таксама Адам Вайрак, журналіст „Выбарчай газеты", які нядаўна стаў жыць у Белавежы і на месцы сочыць за выпадкамі незаконнага палявання на звярыну, аб чым потым піша ў сваёй штодзёнцы.

Ці тэлеперадача М. Вернікоўскай зварухне сумленні браканьераў? Бадай, не! Усё ж добра сталася, што гэтай сумнай з'яве журналісты намагаюцца надаць паўсюдную вядомасць. Магчыма, грамадская думка больш рэзка будзе дамагацца, каб адказныя ўстановы выказвалі вялікую рашучасць у ліквідаванні бязлітаснага нагул для дзікай звярыны занятку некаторых асобеняў.

**Пётр Байко**

# Вада на вагу золата

У Крынках працуюць тры разлеўні высокаякаснай мінеральнай вады „Крынка", якія належаць мясцоваму ГСу. Найбольшую прадукцыю выпускае трэці цэх — 1800 бутэлек „мінералкі" і іншых напояў у гадзіну.

Неўзабаве ў нашым рэгіёне будзе можна купіць „Крынку" у 3- і 5-літровых бутэльках. На ёй можна зварыць куды смачнейшы чай або каву.

Як паказалі геалагічныя даследаванні, Крынкі знаходзяцца на... вялікай артэзіянскай студні. Некалькі дзесяткаў метраў пад паверхняй зямлі знаходзіцца падземнае возера. Якраз і з гэтых вадаёмаў у нетрах зямлі бяруць ваду для вытворчасці „Крынкі". У некаторых месцах у Крынках ціск падземнай вады бывае такі, што фантан дасягае трох метраў.

Варта дадаць, што частку прадукцыі высылаюць у Рэспубліку Беларусь, у Расію і Літву. З прычыні пра павелічэнне рынку крынкаўская ГС будуе чацвёртую разлеўню. Будзе яна гатова яшчэ перад летнім сезонам. **(гай)**

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 12**

У шостым нумары „Нашай нівы" за 1908 год у рубрыцы „З Беларусі і Літвы" зноў паявілася шэраг інфармацый аб жыцці беларусаў ва ўсходняй Беласточчыне. Некаторыя з іх мелі драматычны характар. І так аўтар падпісаны псеўданімам „Марыся" паведамляў, што ў вёсцы Галады Бельскага павета здарыўся нешчаслівы выпадак. У час высякання лесу падаючае дрэва моцна пакалечыла селяніна. Суседзі павезлі параненага ў бальніцу. Аднак лекар не наведаў хворага. Пасля некалькіх гадзін пры хворым паявіўся фельчар, які пасыпаў пакалечаную галаву жоўтым парашком і загадаў везці яго дахаты. Назаўтра стан хворага пагоршыўся. Фельчар з Бельска сказаў, што ратавалі пакалечанага няправільна і што яму пагражае смерць. І сапраўды селянін памёр, пакінуўшы жонку і двое дзяцей.

Трагічны тон мела таксама вестка падпісаная ініцыяламі „ВГ", у якой гаварылася, што беспрацоўны беластоцкі жыд кінуўся пад цягнік. У кішэні нябожчыка знайшлі тры капейкі. Аптымістычны характар мела інфармацыя Халімона з-пад Пушчы, у якой гаварылася аб тым, што бяльшчане адкрылі ў горадзе дзве прагімназіі: мужчынскую і жаночую і што жыхары горада звярнуліся да губернатара з просьбай адкрыць у Бельску „Лігу образования".

У сёмым нумары тыднёвіка паявілася цікавая інфармацыя з вёскі Кленікі, падпісаная псеўданімам „Міхалка-Запалка". З інфармацыі даведваемся, што кленіцкі сход пастанавіў выслаць у Сібір пяць мясцовых сялян-зладзеяў. У сямі іншых вёсках у гэтым часе сходы пастанавілі накіраваць у сібірскія ссылкі 21 селяніна. Аўтар публікацыі выказвае думку, што такая форма пакарання людзей можа весці да розных выліваў і несправядлівасці. Для падмацавання сваёй тэзы аўтар прыводзіць прыклад з вёскі Лянева. „Вёска Ленево хацела выслаць Івана Маліша: у яго знайшлі шмат адмычак і ключоў. Але кленіцкі валасны сход не зацвердзіў. Усё гэта добра, але бяда з тым, што на сходзе ўсе пілі гарэлку! Можна, значыць, за гарэлку і апраўдаць, і засудзіць чалавека. А кленіцкае валаснoe начальства і выбарныя не надта добрую славу маюць, за бутэлькай у клуні разбіраюць, чыя гарэлка смачнейшая".

У дзевятым нумары „Нашай нівы" за 1908 год ізноў адазваўся „Міхалка-Запалка" з Бельшчыны. Апісаў ён сітуацыю з бібліятэчнай справай у Шчытах і Дубічах-Царкоўных.

„Па прыказу губернатара змянілі заведуючага бібліятэкай-чытальняй у Шчытах мужыка мясцовага Маліша. Тое самае было ў сяле Дубічах, где бібліятэкай заведываў вучыцель Канецкі. Мужыкі тутэйшыя вельмі паразумнелі і выбіралі на заведуючых бібліятэкамі сваіх людзей, каторых лічылі карыснымі, дык жа гэта шмат каму не спадабалася. Цяпер некаторыя людзі стараюцца, каб выбіралі духоўных, але мужыкі глядзяць на гэта не вельмі прыхільна".

У дзесятым нумары тыднёвіка Халімон з-пад Пушчы ў кароткім выказванні звярнуў увагу на тое, што ва ўсіх паветах Гродзеншчыны знаходзяцца вялікія залежы торфу, які з'яўляецца вельмі добрым палівам і ўгнаеннем. Аднак гэта карысная сыравіна не выкарыстоўваецца мясцовым насельніцтвам.

У гэтым жа нумары вядомы ўжо нам Міхалка-Запалка ў досыць аб'ёмістай публікацыі расказаў аб эпідэміі шкарлятыны ва ўсходняй Беласточчыне. Аўтар падаў трагічныя весткі аб вёсцы Кленікі.

„Па нашых вёсках хваробы звілі сабе моцнае гняздо. У адной вёсцы Кленікі за апошні месяц ад шкарлятыны памерла 50 дзетак!.. Мужыкі капаюць, усё капаюць сваім дзецям ямкі на могілках, у кожнай хаце мруць дзеткі, часта па двое і па трое. І на магілках паміж старых пахіленых і абросшых мохам крыжоў растуць новыя маленькія крыжыкі..."

Аўтар пастулюе патрэбу пашырэння медыцынскай апекі, якая пакуль што знаходзіцца на нізкім узроўні. Усе прадстаўленыя тут інфармацыі аб жыцці беларусаў усходняй Беласточчыны сведчаць аб тым, што дзякуючы „Нашай ніве" весткі аб побыце нашых продкаў шырока разыходзіліся па тэрыторыі ўсёй Беларусі.

**Алесь Барскі**

# За цвярозасць моладзі

6 сакавіка г.г. у Гмінным асяродку культуры ў Дубічах-Царкоўных адбылася сустрэча вучняў VII і VIII класаў з Дубіч-Царкоўных, Старога Корніна і Чыжоў з супольнасцю Al-Ateen, якая паказала антыалкагольную праграму „NOE". У аснову праграмы лёг эмацыянальны падыход да пытанняў алкагалізму — усе гледачы выказвалі свае меркаванні і ўдзельнічалі ў гульні, у час якой узнімаліся пытанні самых важных людскіх каштоўнасцей: праўды, любові, свабоды і іх страты ў выніку празмернага спажывання алкаголю. У ліку вядучых праграму былі экс-алкагалічка, жонка алкаголіка і непітушчы па сваёй волі. Намагаліся яны даказаць, што алкагалізм — гэта хвароба ілюзій і адмовы. На канец адбылося тайнае галасаванне, у выніку якога 96% удзельнікаў выказаліся за жыццё без алкаголю. Шкада, што ў дарослым жыцці так яно не будзе. Дарослыя п'юць пры любой нагодзе, а на непітушчых глядзяць як на нейкіх дзіўных асобеняў. Амаль 20% пітушчых пападае ў алкагалізм, ад чаго пакутуюць не толькі яны самі, але і іх сем'і, блізкія.

Можа мерапрыемствы такога тыпу дапамогуць пазбегнуць трагедый, выкліканых алкагалізмам? А вось адрас групы Al-Ateen: Joanna Poniatowicz, ul. Sportowa 1/17, 16-020 Czarna Białostocka. Можна таксама пакарыстацца бясплатным тэлефонам „Niebieska linia dla ofiar przemocy": 080020002. Ёсць яшчэ многа людзей, якія хочуць дапамагчы пакутуючым алкагольнай хваробай.

**Славамір Кулік**

# Парнасік

## Чаканне

Гэта не ты.
Гэта дождж
Ходзіць за акном.
Гэта не ты.
Гэта месяц
Зазірае праз шыбу.
Гэта не ты.
Гэта знічкі
Асыпаюцца з неба.
Гэта не ты.
Гэта дрэвы
Шэпчуцца з домам.
Дня не перажыць,
Ночы не праспаць
Мне. Чакаю.
... Гэта не ты.
Гэта сонейка
Прыходзіць
Надосвітку.

**Аўрора**

## Веснавыя вятры

Павеялі веснавыя вятры,
Стала цяплей на двары.
Сонца ўгару паднімаецца,
Увесь час вясна прыбліжаецца.
Чуваць яе подых ласкавы:
Колькі тут сілы і славы.
Сілы вясны ніхто не пераможа,
Бо гэта *тварэнне* чыста Божае!
Вясна прыносіць здароўе, цяпло
Ды ўсмешку і дабро.
Адмоўных з'яў яна не мае
І магутнага Бога праслаўляе.
Маразы і кароткія дні адыходзяць,
Жывыя стварэнні прагна просяць:
Прыходзь вясна хутка-скора,
Бо зімою мы былі прыстанішчам гора,
Жылі як у астрозе
На халодным ветры і марозе.
Шчасце, што зіма была не лютая
І сваім тоўстым пакрывалам не „абутая".
Хаця на пачатку пацярпелі нямала,
А вясна заўсёды — духовая мара.
Вятры ўжо не гуляюць, а плывуць,
Жывы прамень надзеі даюць,
Што за імі вясна крочыць, а мо ляціць
І жадае аблягчэння таму, каму баліць.
Бог даў птушкам компас і гадзіннік,
А крылатыя, гэта прыгажосць і краса краіны.
Яны вельмі карысныя ў кожную хвіліну:
Каб знішчаць паразітаў ляцяць на лугі, палі, у хваіну...
Компас іх вядзе па маршруце — не заблудзіцца,
А гадзіннік памагае дамоў вярнуцца, ажывіцца.
Раслінны свет чуе таксама подых вясны,
А таксама звер палявы, вадзяны і лясны.
Вясна і ветры даюць новы жыццю прастор
І скора пачуем прыгожы веснавы хор;
Тэатральны хор так не зможа спяваць,
Таму ўсім птушкам трэба сардэчную дапамогу падаць.

**Мікалай Панфілюк**

## Не забылі

Цяжка мне забыці,
Што калісь бывала,
Як людзей нявінных
„Война" забівала.
Дзе іхны магілы?
Не зможам адшукаці,
Каб ім пахаванне
Хрысціянскае даці.
Тых, што забівалі
Нельга запытаці;
Яны цяпер ветэраны,
Усім трэба знаці.
Сядзеў такі ў лесе,
Грабяжом займаўся,
Цягнуў да сябе ўсё
І багатым стаўся.
Цяпер стаў героем,
Бо тады змагаўся.
Для мяне зладзюгай
Навекі астаўся.
Ад такіх зладзюгаў
Сцеражы нас, Божа!
Гэтага прашу я —
Можа дапаможаш.
За болі пякучы
Трэба дараваці.
Толькі дзе магілу
Брата адшукаці?
Дзе ён спачывае,
Каб я мог дазнацца,
Крыжык там паставіць,
Штогод пакланяцца.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер — не вер

Астроне, сніцца мне, што я на вёсцы, быццам бы ў цесцяў. Калісь у іх быў надта ваўянічы певень. Кідаўся на ўсіх, хто толькі апынуўся на панадворку. Даўно ўжо яго няма, а вось у маім сне ён паявіўся і... кінуўся на мяне. Я трымаю ў руцэ лазу і б'ю яго моцна, з усяе сілы. Ён зваліўся набок. І раптам бачу, што з гэтага пеўня свіння зрабілася — маладзенькая, вагой у 40—50 кг. Я б'ю тую свінню ў ваколіцы шыі. На целе яе ад удараў паяўляюцца плямы цёмна-фіялетавага колеру. Я б'ю далей і яна ўжо канаючая, у агоніі, дрыжыць... Раптам паяўляецца мой сябра, з якім мы працуем на адным прадпрыемстве, і я звяртаюся да яго: „Генэк, мусіш гэту свінню дабіць. Я патрымаю яе за нагу, а ты ўсадзі ёй нож у сэрца". А ён мне кажа: „Не, шэфе, ты не ўтрымаеш. Зробім інакш". Ён адыходзіць, бярэ вялікі малаток і цвікі. Прыбівае нагу яшчэ жывой свінні да чорнага асфальту, а потым тое ж робіць і з другой нагой. Я здзівіўся, як можна ўбіць цвік у жывое цела. У гэты момант шчаціннe свіні зменяецца ў воўну цёмнага колеру. Свіння змяняецца як бы ў барана ці авечку. Я прачынаюся.

**Андрэй**

Андрэй! Твой сон кепскі. Выступае ў ім розная жывёла: певень, які пераўтвараецца ў свінню, а пасля і са свінні зрабіўся нібы баран, нібы авечка. Гэтая жывёла магла б абазначаць: певень — радасныя весткі, спакой, задавальненне; свінні — грубая і непрыемная кампанія; авечкі — здароўе і багацце. Але... калі б ты не біў гэтую жывёлу. А ты яе біў (пеўня — лазой, свінню — давёў да агоніі і прасіш, каб сябра ўсадзіў ёй нож у сэрца, а ён прыбівае цвікамі яе ногі да чорнага асфальту) ды здзекаваўся над жывёлай, як мог.

І гэта можа прадвяшчаць табе нейкую страту, а мо хваробу ці проста сум. А да таго ж яшчэ і нож (калі ты яго бачыў) папярэджвае аб нейкіх сварках і непрыемнасцях. Бадай, усе гэтыя прагнозы будуць датычыцца тваёй працы, бо і біць жывёлу дапамагаў табе не хто іншы, як твой супрацоўнік з вашага прадпрыемства.

**Астрон**

# Легенды Міхалоўскай гміны

Ужо трэці год Таварыства прыяцеляў Міхалоўскай зямлі ды тамашні Гмінны цэнтр культуры супольна з ВААКам ладзяць акцыю „безыменнай" творчасці. Мэта іх — запісаць як мага найбольш мясцовых легендаў, казак і паданняў, у тым ліку звязаных з канкрэтнымі месцамі, такімі як курганы, урочышчы, раздарожжы, дзікія непраходныя багны. Нядаўна выйшла з друку кніжка „Легенды гміны Міхалова", якую падрыхтавалі Лешэк Нос і Рышард Варабей. У ёй памясцілі яны 22 цікавыя мясцовыя творы ды ілюстрацыі Агнешкі Кухарскай, Юліты Ярашук, Бэаты Асташэўскай і Рышарда Варабея.

**(гаї)**

# Было ды сышло...

У канцы жніўня мінулага года ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы па вул. 3 Мая 42 адкрылі бар-кавярню „Белы сон", на 50 месц. У памяшканнях, якія знаходзяцца ў самым цэнтры горада, былі прыгожыя драўляныя столікі і крэслы. На сценах віселі вышываныя беларускім арнаментам ручнікі ды іншыя рэквізіты, між іншым калаўроткі. Кавярня працавала штодзень дванаццаць гадзін. Было дзе зайсці і прыемна правесці свабодны час, паслухаць добрай музыкі, нашых цудоўных беларускіх песень, запісаных на касетах, патанцаваць. Можна было...

Зараз гэта толькі прыемны ўспамін нядаўняга мінулага. Кавярню закрылі. Была ды сышла... быццам сон.

**(гаї)**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. эмацыянальнае святло ў вачах, 4. Кат'я, алімпійская чэмпіёнка з Нагана ў скорасным спуску, 6. упрыгожанне з рэльефнаю разьбой, 7. Язэп, беларускі мовазнавец (1883—1940), 9. кіпучая вада, 11. густы трапічны зараснік, 12. Аляксей, бронзавы прызёр алімпійскіх гульняў у Нагана па біятлоне, 13. Элен, шведская пісьменніца і педагог (1849—1926), 15. мангольскі парламент, 17. Сяргей, пасол у польскі парламент з Беласточчыны, 18. Дзмітрый, бронзавы прызёр алімпійскіх гульняў у Нагана па лыжнай акрабатыцы, 19. горад на паўночным захадзе выспы Хонсю.

**Вертыкальна:** 1. маёнтак у якім нарадзіўся Янка Купала, 2. прадпрыемства, дзе забіваюць жывёлу на мяса, 3. даўняя яўрэйская абшчына, 4. плывучы землечарпальны снарад для гідратэхнічных работ, 5. Шота, грузінскі сярэдневяковы паэт, 6. верхняя вопратка з вырабленых аўчын, 8. сумчаты мядзведзь, 9. Б'яртэ, алімпійскі чэмпіён з Нагана ў нарвежскай камбінацыі, 10. туды пападуць душы праведнікаў, 14. аўтар „Электры", 16. жыхарка Мазовіі, 17. цестападобная касметычная маса.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 6 нумара**

**Гарызантальна:** ібіс, Лагаш, упадак, Штур, Халеб, Авеста, Караджыч, шквал, катлаван, Кустанай, Дудар, дынаміка, кімано, аймак, жыта, галаты, Львоў, коўш.

**Вертыкальна:** Дамаск, калека, батрачка, Сураж, далеч, Масты, балгарын, выкладка, Шэкі, воск, звод, шнур, Айтматаў, Уайльд, абарог, Мілан, Дакар, ножык.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# Гайнаўскія выставы

У Гайнаўскім беларускім ліцэі працуе выстава фатаграфій і буклетаў, якія сталі плёнам падарожжа спадарства Славікоўскіх у Злучаныя Штаты Амерыкі. На выстаўцы „Амерыка з падарожжаў спадарства Славікоўскіх" экспануецца, м.ін. сертыфікат, які выдаецца пасля наведання вядомага Секвойнага парку.

А ў Гайнаўскім доме культуры 15 сакавіка адкрылася чарговая выстава жывапісу з цыкла „Галерэя маладых". Гэтым разам на працягу месяца экспануюцца карціны Паўла Верамюка.

**Славамір Кулік**


# Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK", ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1998 r. upływa 5 czerwca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

<u>Фрашкі пра нашых</u>

## Вася і Коля

На Падляшшы найбольш паважаюць
Вялікіх Васілія і Міколу.
А нашы сябры ўсе сябе зневажаюць,
Наш Коля і Вася — усё сябе колюць.

О, тыя, што ў Небе з Ісусам пануеце,
Зрабеце, што ў моцы, малеце у Бога,
Каб усё, што напішацца і надрукуецца
У „Ніве” ад іх было не з благога,

І разам заселі наш Коля і Вася
У ніўскай кампаніі ці ў сябе на падворку,
І добрая мова між імі лілася,
А з неба над імі ўсміхаліся зоркі!

## Махась

Знаёмы ўсіх
і ўсім дарадца
і пераводца
намахаў сам,
сасватаў дваццаць
пар сваіх
— не разарвацца! —
неразліводцаў.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## (Пры)думкі Пятра Байко

* Думаю, што думаю.
* Бяда не пішчыць, пішчыць той, каго яна прыгнятае.
* Добрага з'ядаюць, дрэннага выплёўваюць, і толькі аднаго дурнога абмінаюць.
* Чым далей у лес, тым больш дрэў... да высячэння.
* Весці дыскусію з дурным пачне толькі дурнейшы за яго.

# Ніўка



*Малюнак Алега КАРПОВІЧА*

## Пеленгатар

Яўсей не любіў мясцовых радыёперадач.

— Брэшуць яны там, як сабака на месяц, — гаварыў ён сваёй Агаце.

І ўсё ж, калі чуў знаёмыя пазыўныя, адразу спяшаўся да рэпрадуктара, браў аловак і клаў перад сабой аркуш паперы. Не, ён не запісваў, колькі хто надаіў, скасіў ці вывез. Гэта яго не цікавіла. Яўсей пеленгаваў перадачы, якія ідуць пасля слоў дыктара: „А цяпер паслухайце аб'явы”.

На гэты раз Яўсей запеленгаваў архіважны факт. Дыктар паведаміў: калі хто раптам знайшоў папку з дакументамі, згубленую ў раёне Вішнявец, просьба пазваніць па тэлефоне...

— Ага, папаўся, галубчык!.. — ажно падскочыў Яўсей.

— І калі ты толькі нацешышся з людской бяды? — папракнула яго Агата. — За такія штучкі месца для цябе будзе ў пекле.

— Штучкі-дручкі! — перадражніў ён жонку. — Маё месца не ў пекле, а на адной са святымі. Бо я ж вучу дурняў. Во паслухай, як я гэтага вучыць буду.

Яўсей набраў нумар тэлефона, строгім голасам запытаў:

— Гэта вы згубілі папку з дакументамі?

— А вы знайшлі яе?

— Не званіў бы, — важна прабасіў Яўсей. — А якога яна колеру?

— Жоўтага. Скажыце, як ваша імя?

— Верны сябар. А вашае?

— Сцяпан Піліпавіч.

— Дык вось што, Сцяпан... Прызнавайся ва ўсім, як на споведзі, іначай дакументаў сваіх не ўбачыш, як уласных вушэй.

— Ну-у, што вы так, таварыш?..

— Не таварыш я табе, а верны сябар, — папраўў Яўсей.

— Добра, добра, верны сябар, — ужо дрыжачым голасам адказаў Сцяпан.

— Як трапіла тая папка ў Вішнявец? Ці ж не шуры-муры тут?

— Ну, што за пытанне? — ажно ўзмаліўся няшчасны Сцяпан. — Якое гэта мае дачыненне...

— Мае! — са стальнымі ноткамі ў голасе перапыніў яго Яўсей. — Заўважыў тоўстыя лыткі і забыўся пра дакументы! А зараз плакала твая кар'ера... — І Яўсей паклаў трубку.

— Чула, як я гэтага бабніка прачысціў? — гукнуў ён Агаце. — Цяпер адной рукой будзе абдымаць, а другой — папку трымаць. — І павёў пальцам па іншых запеленгаваных па радыё тэлефонных нумарах.

— У гэтага сабака згубіўся, у гэтага — партфель... Ага, во! Кашалёк з грашамі згубіў.

Набраў нумар.

— Знайшлі кашалёк?

— Пакуль што не, — пачуў у адказ.

— Слухай мяне ўважліва...

— Слухаю, — пачулася ў трубцы.

— Не ўмееш берагчы грошы, дык дулю з'еш! Гы-гы-гы!

І Яўсей задаволена кінуў трубку. Да наступнай перадачы.

**Мікола КАРАЛЁЎ**

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

У кабінеце дырэктара цырку раздаецца тэлефонны званок:

— Пан дырэктар, я хацеў бы працаваць у вашым цырку...

— А што вы ўмееце?

— Умею глытаць шаблю метровай даўжыні.

— Гэта ўстарэлы і нецікавы нумар.

— Магчыма, але мой рост — восемдзесят сантыметраў.

* * *

Размаўляюць два дырэктары:

— Як твая сям'я збіраецца правесці канікулы?

— Нявестка выбіраецца на Карыбскія астравы, дачка ў Сочы, жонка ў Парыж...

— А ты?

— Найбольш праўдападобна — у турму.

* * *

— Твая сакратарка стварае ўражанне вельмі працавітай.

— Так, і гэта яе адзіная вартасць.

— Працавітасць?

— Не, стварэнне ўражання.

* * *

Маладая сакратарка ўваходзіць у кабінет дырэктара, сядае яму на калені ды гаворыць:

— Праўда, мае бацькі не мелі рацыі, калі раней гаварылі мне, што на працы ніхто не будзе са мною пясціцца?

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Ці твой нарачоны ведае, колькі табе гадоў?

— Так; часткова.

* * *

— Дзіўуюся, чаму ты выйшла замуж за Андрэя: паміж вамі такія розніцы...

— А ты не ведаеш, што процілегласці прыцягваюцца: я зацяжарыла, а ён не!

* * *

— Адкуль у цябе такая араматная кава?

— Муж прывёз з Бразіліі.

— І не выстыла!?

* * *

— Закахаліся ўва мне два стройныя і багатыя мужчыны і абодва хочуць са мною жаніцца. Маю дылему: ад катарага пачаць?

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Аж бярэ мяне жах, што такое пісьмо я пішу на дванаццатую старонку. Мусіць, трэба было пісаць пра нешта вясёлае, смешнае, а я пішу пра справы — трагічныя...

Я выйшла замуж з вялікага кахання, хаця ведала, што мой муж доўга вагаўся. Людзі, сяброўкі казалі мне: „Падумай, што ты робіш, ён жа валацуга!” А я не таму хацела за яго выйсці, што мы доўга хадзілі і ўсе лічылі нас парай, а таму, што вельмі яго кахала.

Я не верыла нікому. Як жа гэта так? Ён жа мяне кахае, мяне абсыпае пацалункамі і да мяне прытуляецца. Як мог бы ён гэта рабіць з іншай?!

На паўгода мой хлопец зусім знік і не паказваўся. Кудысьці выехаў, а мелі ж мы ўжо браць шлюб. Казалі, што паехаў на заробкі заграніцу. Але чаму нічога мне не сказаў? Мне было прыкра, бо я ўжо і сябрам гаварыла, што неўзабаве возьмем шлюб. Калі хлопец вярнуўся, мы пачалі хадзіць ізноў. Пра шлюб ужо не гаварылі, але наведваў мяне рэгулярна. Я зацяжарыла, а ён сказаў, што пакуль дзяцей не плануе. Калі я рашыла нарадзіць дзіця, ён перастаў прыходзіць да мяне. Я зноў засталася адна.

Божачкі, што рабіць? Нічога нікому з блізкіх не гаворачы, я пастаралася пазбыцца дзіцяці. А пасля пайшла і сказала пра гэта свайму хлопцу. Ізноў пачаў ён прыходзіць да мяне. Дабіўсятакі свайго, а я доўга яшчэ не магла прыйсці ў сябе.

Гэта ўжо, дальбог, была хвароба. Я чакала яго, як збаўлення, не бачачы свету за ім. А ён мог прыйсці або і не прыйсці. Заставалася горыч на сэрцы, бо дзе ён быў — я не ведала.

А пасля яго бацькі вырашылі, што трэба сына ажаніць, бо скруціцца да рэшты. І... выбралі мяне для ролі сваёй сыновай. Я гэтага не чакала. Мой хлопец сам прыйшоў і сказаў: „Жэнімся!” Я ад радасці пачала плакаць.

Столькі ж чакала я гэтага дня! Так марыла пра яго, верыла, што такі дзень наступіць. Нарэшце я буду яго жонкай... Я не верыла ў сваё шчасце.

Ну, мы пажаніліся, але неўзабаве высветлілася, што нічога ў нашым жыцці не змянілася. Хацеў ён — быў мілы, хацеў — не вяртаўся нанач. Вядома, што ні мае бацькі, ні яго пра гэта не ведалі, бо мы жылі асобна.

Я калісьці не вытрымала і расплакалася пры свякрусе, а яна мяне „супакоіла”: „Не хвалюйся, у маім жыцці было таксама!”

Тым часам я зацяжарыла, што вельмі ўцешыла мяне. Я, па-першае, баялася, што мо не буду наогул мець дзяцей з-за таго аборту, а па-другое, я спадзявалася, што нарэшце мой муж перастане цягацца.

А тут, у восьмым месяцы цяжарнасці, амаль перад самым нараджэннем дзіцяці даведваюся я, што іншая дзяўчына, вучаніца нейкага тэхнікума, ходзіць цяжарная ад майго мужа.

Я думала, што з нерваў скіну сваё дзіця. Але неяк перажыла. Муж тлумачыў мне, што нават не памятае, як гэта здарылася, мо на імянінах у сябра, бо здорава тады выпіў.

Ізноў ён быў у парадку, бо „не памятаў”. Толькі нарадзілася наша дзіця, як і тая дзяўчына нарадзіла. Я не хацела прыніжацца і гаварыць з ёю, але вырашыла сама высылаць ёй аліменты. Дзіця ж не вінавата, а дзяўчына была з вельмі беднай сям'і, сама гадавалася без бацькі. Мой муж казаў мне, што яго гэта дзіця не цікавіць, але некаторыя яго часамі з той дзяўчынай бачылі.

Мо ўсё б так і заціхла, калі б... тая дзяўчына не загінула ў аўтамабільнай катастрофе. Дзіцяці ўсяго годзік, бабуля — без сродкаў. І я падумала, што мо варта гэтае дзіця адаптаваць і выхоўваць разам з нашым сынком? Як ты думаеш, Сэрцайка?

**КАМІЛЯ**

Каміля! У цябе добрае сэрцайка, але твайму мужу, здаецца, усё гэта „да лямпачкі”. Калі ён сябе так паводзіць, дык падумай перш, ці хопіць табе жыллёвай плошчы, бо такіх дзяцей можа знайсціся больш.

Можа лепш дапамагчы той старой фінансава. Хіба што... ты інакш не можаш.

**СЭРЦАЙКА**